ГОД VIII ВЕРАСЕНЬ-КАСТРЫЧНІК 1954 г. № 62

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

ДВУМЕСЯЧНЫ ЧАСАПІС БЕЛАРУСКАЕ РЭЛІГІЙНАЕ ДУМКІ



ФАЛЬКАВІЦКАЯ ЦУДАТВОРНАЯ ІКОНА
МАЦІ БОЖАЕ

**BOŽYM ŠLACHAM**
**(SUR LA VOIE DIVINE)**
BULLETIN RELIGIEUX BIELORUSSIEN BIMESTRIEL
Année VIII. N° 62 Septembre-Octobre 1954
51, rue des Sts-Pères — PARIS - VI^e

| Перадплата «Божым Шляхам» на 1954 г. | | |
|---|---|---|
| | За адзін нумар | На год |
| Францыя | 60 фр. | 350 фр. |
| Англія | 1 ш. 10 пэн. | 8 шыл. |
| Аргэнтына | 2 пэз. | 10 пэз. |
| Аўстралія | 2 ш. | 10 шыл. |
| З. Ш. А. | 20 цэн. | 1 дал. |
| Бэльгія | 8 б. фр. | 50 б. фр. |
| Данія | 1 д. кар. | 6 д. кар. |
| Канада | 20 цэн. | 1 дал. 20 ц. |
| Нямеччына | 80 пф. | 5 н. м. |
| Швэцыя | 1 ш. кар. | 6 ш. кар. |

Грошы слаць на адрасы:

У ФРАНЦЫІ:

**Chèque Postale : Paris c. 6287 44**
**R. P. Horosko Leo, 95, rue de Sèvres, PARIS VI^e^.**

У АНГЛІІ:

**Rev. dr. C. Sipovic, Marian House, Holden Avenue, LONDON N. 12.**

У АРГЭНТЫНЕ:

**Asociacion Bielorusa en la Argentina C. Coronel Sayos 2981.**
**4, de Junio, Buenos Aires.**

У АЎСТРАЛІІ:

**Mr. Jackievicz Donat, 60, Fisher Str. East BRISBANE. Q-ld.**

У БЭЛЬГІІ:

**M. l'Abbé Czerniaŭski François, Michelse 202. LOUVAIN.**

У НЯМЕЧЧЫНЕ:

**Dechant Michael Moskalik. Konto, N° 135259, P. Sch. A. Hannover.**
**in Goslar,**

**КНІЖКІ ДА НАБЫЦЬЦЯ.**

У Беларускіх Каталіцкіх Місіях у Лёндане і Парыжы можна купіць наступныя беларускія кніжкі:

Друя В. — Ты і яна. 250 фр — 6 шыл.
а. Л. Гарошка — Душа 40 фр. — 1 шыл.
а Л. Гарошка — Паходжаньне чалавека 20 фр. — 10 пэн.
а. Л. Гарошка — Сьв. Еўфрасіня — Прадслава Полацкая 150 фр.— 4 шыл.
Г-і Я. — Казкі № 2 — 30 фр. 15 пэн.
Г-і Я. — Казкі № 3 30 фр. 15 пэн.
Равенскі М. Арсеньева Н. — Магутны Божа. Песня з нотамі. — 5 фр. 3 пэн.
Народная казка — Музыка і чэрці 40 фр. 1 шыл.
Каваль П. — Беларусь у датах, ліках і фактах (друг. выд.) 450 фр. — 13 шыл.
Змагар А. — Случчакі-Апавяданьне—100 фр. 2 ш.
Змагар А. — Рэпка-казка — 30 фр. 15 пэн.
Малітаўнік «Божым шляхам» 80 фр. 2 шыл.
Малітаўнік «Holas Dušy» 200 фр. 5 шыл.
Камплет часапісу «Божым шляхам» за мінулыя гады 2500 фр. — 2 ф. і 10 шыл.
Карта Беларусі — 40 фр. 1 шыл.

**M. Bahdanovic — Weissruthenischer Heimat. Lyrik** — 50 фр. 2 шыл.

Зьвяртацца на адрасы: У Францыі:

**R. P. Horosko Leo, 95, rue de Sèvres, Paris VI.**

У Англіі: **Rev. dr. C. Sipovic, Marian House, Holden Avenue, LONDON N. 12.**

У Нямеччыне: **Weissruthenischer Caritas-dienst in Deutschland. (20b) Goslar/Harz, Sommerwohlenstrasse 1 A.**

# З беларускае народнае мудрасьці

Бог дасьць, Бог і возьме.

Бог увідзіць, хто каго пакрыўдзіць.

Вышэй галавы не падымешся. Вышэй здольнасьцяў ня пойдзеш.

Ніхто ў Бога ня быў, з Богом не меркаваўся. Ніхто ня ведае Божых плянаў і не ўмаўляўся з Ім.

І Бог усім не дагодзіць.

І да булавы трэба галавы.

І косьці па роднай старонцы плачуць.

І кот гаспадыня, калі бліны на паліцы.

І лісіца аладкі пячэць, калі цеста на апаноў цячэць. Пры дастатках кожны ўладзіцца выгадна,

І людзі не памогуць, калі Бог не паможа.

І мядзьведзя вучаць.

І на гладкай дарозе прыпадак можа здарыцца.

Іншая дабрата горш дурнаты.

Іншых слухай і свой розум мей.

І разумны ня купіць, як дурань не прадасьць.

І ў царкву ходзіць і людзям шкодзіць.

Каб былі ўсе багаты, то Бога забыліся-б.

Каб ён Богу маліўся, то-б ад яго чорт адступіўся.

Каб людзі ня ўміралі, дык-бы ў неба ўпіралі.

Каб чалавека пазнаць, трэба з ім бочку солі зьесьці.

Каго Бог любіць, таго не загубіць.

Каго Бог любіць, таму крыжыкі (цярпеньне) дае.

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

Год VIII. ВЕРАСЕНЬ-КАСТРЫЧНІК 1954 г. № 62


# Значэньне культу Марыі

У Каталіцкай Царкве за апошняе стагодзьдзе заўважваецца асаблівае ажыўленьне ў разьвіцьці навукі адносна Марыі і ў буйным росьце марыйскіх арганізацыяў. За апошнія 100 гадоў Сьвяцейшыя Айцы, побач абвешчаньня сьвятых, двойчы выступалі ex cathedra і абодва разы абвяшчалі марыйскія догмы: У 1854 абвешчана догму аб непарочным пачацьці Багародзіцы, а ў 1950 г. догму аб унебаўзяцьці Багародзіцы.

У тым-жа часе ў краінах, дзе ёсьць свабода веравызнаньня, не зважаючы на ніякую супрацьрэлігійную прапаганду розных абыякавых і варожых да веры арганізацыяў, можна сьцьвердзіць паважны ўзрост, пашырэньне і паглыбленьне культу Марыі. Гэта асабліва наглядна відаць у росьце марыйскіх арганізацыяў, як: Марыйскія дружыны, Марыйскі легіён, Марыйскія кангрэгацыі, Дзеці непарочнае Марыі і пад.

Характэрна так-жа, што ў гэтым-жа часе і Самая Багародзіца выразна праявіла асаблівыя турботы адносна сваіх земскіх дзяцей, зьяўляючыяся ў розных, звычайна загрожаных бязбожніцкім рухам, мейсцах і заклікаючы ўсіх да шчырае пакуты і малітвы.

У 1830 г. зьявілася Багародзіца ў Парыжу ў капліцы мацярынскага дому сясьцёр шарытак сястры сьв. Кацярыне Лябурэ. Цяпер гэтая капліца шырока ведамая ў сьвеце пад іменем «Капліцы цудоўнага мэдалю».

У 1846 г. — двом пастушком у Ля Салет. Цяпер там ведамае на ўвесь сьвет мейсца прошчаў.

У 1858 г. — сьв. Бэрнардэце ў Мэсаб'ельскай гроце каля Люрду на поўдні Францыі і ад таго часу Люрд стаўся мейсцам цудаў сусветнае славы.

У 1871 г. — дзецям у Понтмэн (Зах. Францыя).

У 1917 г. — дзецям у Фаціме (Партугалія).

У 1932 г. — так-жа дзецям у Борíенг (Бэльгія).

У 1933 г. — дзяўчынцы ў Баннё (Бэльгія).

Але агульна ведама, што ў гэтым-жа часе на супрацьрэлігійным фронце праявілася нябывалая дагэтуль актыўнасьць. Ужо ад часу вялікае францускае рэвалюцыі грамадзкае і палітычнае жыцьцё ўва ўсім сьвеце набірала характару выразна няпрыхільнага для рэлігіі, а потым дык і зусім стала пад знакам ваюючага бязбожжа; зьявіліся школы нямецкіх матэрыялістаў, другі і трэці інтэрнацыяналы, расейскі бальшавізм, нямецкі назізм і розныя тайныя бязбожныя арганізацыі.

Словам, калі ўсьведаміць сабе сутнасьць агульнаграмадзкіх падзеяў з апошняга стагодзьдзя, дык выразна ўбачым, што ў сьвеце адбываецца магутнае ажыўленьне на двох фронтах: на супрацьрэлігійным і на рэлігійным. Калі дачасны сьвет даў волю сваім нізкім гонам, адвярнуўся ад рэлігіі і пачаў каціцца да ўпадку, калі над сьветам з нязвычайнаю сілаю праявілася небясьпека вечнае загубы, дык тады і ў надпрыродным сьвеце праявіліся зьбольшаныя турботы аб збаўленьні людзкое душы. Асаблівую ролю ў гэтых турботах выконвае наша Нябесная Маці. Так як дачасная маці найбольш выяўляе сваю любоў да дзіцяці, калі стаіць ля ложка хворага, падобна і нябесная Маці, найбольш выяўляе сваю любоў, калі бачыць зьбольшаныя атакі і загрозу загубы душаў сваіх земскіх дзяцей.

Уласьціва збаўленьне людзкое душы ёсьць актам Божага дзеяньня, бо-ж да гэтага неабходная асьвячаючая Божая ласка, якая залежыць выключна ад Божае волі, але з гэтае-ж Божае волі ў раздаваньні гэтае ласкі Багародзіца займае пачэснае мейсца і шматлікія выдатныя багасловы Яе ўважаюць пасрэднічаю Божае ласкі, таму пашана да Марыі ў Хрыстовай Царкве была заўсёды вялікай, а цяпер асабліва адчувальнай.

Да таго маючы Божую ласку, каб яе належна выкарыстаць, чалавек патрабуе добрага прыкладу, каб скіраваць сваю волю ў належным кірунку, бо з Божае волі збаўленьне чалавека павінна адбывацца дабравольна. Гэта значыць, што кожны чалавек сам павінен дабравольна згадзіцца выконваць Божыя прыказаньні і дабравольна здабываць хрысьціянскія цноты. І з гэтага гледзішча асоба Марыі мае неймаверна вялікае значэньне для ўсяго людзтва.

У асобе Марыі Бог выявіў перад усім сьветам сапраўдную веліч, да якое пакліканы чалавек, даючы гэтым надзвычайна прыцягваючы і пад-

бадзёрваючы прыклад. Бо-ж Марыя — ціхая, бедная, амаль нікому няведамая, сьціплая і пакорная дзева стаецца годнаю ўспрыняць у сваё лона Другую Божую Асобу — Бога Слова. У Яе лоне адбываецца непасьціглае для людзкога розуму гіпостатычнае злучэньне Боскае і людзкое асобаў. Праз Марыю прыйходзіць на сьвет Збавіцель. Але гэта ня ўсё: пасьля свайго дачаснага жыцьця Марыя ўздыймаецца з целам да неба і там узносіцца вышэй за ўсіх анёлаў і арханёлаў. Гэтым Бог выказаў і наглядна паказаў, да якіх вышыняў можа быць узьняты чалавек, а тым самым выказаў і паказаў наглядна свае пляны адносна чалавека, бо-ж для ўсіх людзей Бог ёсьць Нябесным Айцом і ўсіх Ён усынавіў Марыі пад крыжам Ісуса Хрыста ў асобе апостала Івана Багаслова.

Мы, як дзеці Божыя, ёсьць братамі Ісуса Хрыста, а праз Марыю, набываем яшчэ большыя брацкія правы і абавязкі адносна Хрыста. І нашая канчатковая мэта, нашае мейсца ёсьць каля нашае Нябеснае Маці. — Вось тыя вышыні, куды прызначыў нас Бог і куды вядзе нас наша Нябесная Маці.

У Старым Запавеце Бога ўяўлялі, як страшнага сусьветнага Валадара, які сурова карае за грахі, а ў Новым Запавеце выявіліся яшчэ іншыя Божыя азнакі і перадусім тая, што Бог ёсьць Любоўю. Ён бесканечна любіць людзей і таму прызначыў іх да вечнага шчасьця ў небе. І вось гэтую Боскую азнаку найлепш можна пазнаць праз Марыю.

Людзі ў сваёй слабасьці часам кладуць між Богам і сабою горы і бяздоньні штучных «рэспэктаў» і перашкодаў, а Марыя выяўляе, што Боская веліч хоць бязьмежная ў сабе ёсьць такжа бязьмежна блізкая да людзей, а пасрэдніцтва Марыі, яе зьбліжае яшчэ больш і адначасна падбадзёрвае кожнага, бо-ж Марыя, будучы ў нябесных вышынях, турбуецца, каб туды завесьці ўсіх сваіх дзяцей.

Але тут трэба зьвярнуць увагу на адзін вельмі важны мамэнт. Усё, што існуе на сьвеце ёсьць творам Божых рук і поўнасьцю падпарадкуецца Богу, толькі ў духовых істотаў і ў чалавеку Бог аставіў адно мейсца, для гаспадараваньня ім самым — гэта вольная воля. Сіламоц Бог ня цягне да Сябе нікога. Толькі той, хто пачуўшы ў сваім сумленьні голас Бога, адкажа на яго за прыкладам Марыі: «Вось Я, Слуга Божая, хай Мне станецца паводля слова Твайго», увойдзе ў Божае валадарства. І туды пакліканы кожны чалавек, незалежна ад асьветы, ад заняткаў, ад веку, ад багацьця, ад здольнасьцяў, ад становішча — але залежна ад добрае волі і вернага выконваньня Божых прыказаньняў.

Марыя ў дачасным жыцьці выконвала самыя звычайныя хатнія і гаспадарскія занят кі, але выконвала іх так, каб сваею працаю найбольш услáвіць Бога. Яе рукі тут на зямлі былі заўсёды спрацаванымі і мазалістымі, а сёньня праз іх, калі так льга сказаць, прайходзяць усе ласкі, якія Бог пасылае людзям, бо-ж сёньня Марыя ёсьць Валадаркай Неба.

Таму, калі розныя цёмныя сілы пачалі ўсюды пашыраць згубныя матэрыялістычныя клічы, вабіць людзей рознымі дачаснымі і хутка прамінаючымі прынадамі да ўпадку, раструляць змысловыя гоны аж да тае ступені, каб зацьміць у чалавеку нават самую думку аб Богу і аб вечных ідэалах, дык у гэты час Бог зарэагаваў па-свойму, па-Божаму: Ён з усею яснасьцю выявіў перад сьветам, усю веліч Багародзіцы. Якраз гэтую веліч і мае на мэце Каталіцкая Царква, калі вуснамі намесьнікаў Хрыста абвесьціла новыя догмы адносна Марыі.

Пакорная і слабая ў сабе Дзева Марыя, але ўзброеная Божаю ласкаю, раздушыла галаву магутнага і гордага д'ябла, які пасягаў на паняволеньне сьвету. Дык і сёньня, відаць, Божая Маці паклікана выканаць асабліва пасланьніцтва. Не дарма ап. Павал кажа: «Слабых гэтага сьвету выбраў Бог,каб засароміць магутных» (1. Кар.1,28).

У сваёй пакоры і шчырасьці Марыя першая ўверыла ў Хрыста — Яна першая хрысьціянка і Яна першыя практычна выявіла ідэал хрысьціянскага жыцьця. Не прасіла Яна ў Бога ані дачаснае славы, ані багацьцяў, ані гонараў, ані красы, ані здароўя — бо ня ў гэтым сапраўднае шчасьце чалавека, але ў вечных багацьцях, ў набыцьці цнотаў, асягненьні дасканаласьцяў, у імкненьні ўвысь. Яна першая пераняласся сапраўднаю хрысціянскаю любоўю, якая робіць чалавека здольным да найбольшых ахвяраў дзеля Бога. Як добравольна Марыя згадзілася быць маткаю Бога Слова, так дабраволына Яна згадзілася, каб Яе адзінародны Сын Ісус Хрыстос пайшоў на страшэнныя мукі дзеля адкупленьня людзкога роду з палону граху, а ў часе мукаў і кананьня Хрыста, Яна стаяла пад Крыжам і Ёй самой меч прайходзіў сэрца.

І вось гэтая хрысціянская любоў і прыклад Марыі ў сёньняшнім сьвеце зьняверу і нянавісьці пакліканы выканаць асаблівую ролю. Калі Хрыстос у прыповесьці аб Божым валадарстве аднойчы прыраўноўваў яго да закваскі, якая ператварае цеста ў прыгожы хлеб, дык меў на мэце ня што іншае, як любоў. Дзейнічае яна паволі, але безпастанна; няпрыкметна, але пэўна. Апостал Павал кажа, што Бог даў людзям скарбы, але ўлажыў іх «у гліняныя судзіны» (І. Кар. IV,7) цела. Дзьве небясьпекі пагражаюць кожнай гліняной судзіне: калі яна недастаткова выпалена, дык намочаная ў вадзе, заменіцца ў жменю гліны; а дугая гэта моцны ўдар, які найпрыгажэйшую судзіну можа замяніць у кучу чарапоў. І ад аднае і ад дугое небясьпекі можна судзіну ўсьцерагчы. Тымбольш Бог даў сродкі, каб забясьпечыць чалавека ад не-

бясьпекаў і гэта хрысціянская любоў, якая сьцеражэ чалавека ад небясьпекаў вечнае загубы. У дачасным жыцьці кожны чалавек мусіць прайходзіць праз школу дасканаласьці і агонь пробы, які выпальвае ваду розных слабасьцяў і ператварае ў судзінаю, якая зможа ўспрыняць бесканечнае шчасьце ў небе. І вось гэтаю печчу, што ператварае слабога чалавека ў нябеснага грамадзяніна, ёсьць любоў, а прыкладам ёсьць Марыя.

Ад першых дзён свайго жыцьця Марыя, як непарочна пачатая, была ў такім-жа стане, як прамаці Эва і так-жа як Эва яна была выстаўлена на пробу. У мамэнце дабравешчаньня, калі арханёл Гаўрыіл абвясьціў Марыі волю Божую, яна магла свабодна адмовіцца і ня браць на сябе пачэсныя і страшнэнна балючыя абавязкі маці Збавіцеля, або магла зажадаць нейкіх доказаў, ці ад гордасьці падняць заразумела галаву, але Яна мела вялікую любоў Бога і была гатовая беззасьцярожна выковнаць Яго волю — гэтым Яна і розьнілася ад Эвы, дык і адказала пакорна: «Вось Я, слуга Божая, хай Мне станецца паводля слова твайго!»

Сёньня асабліва ясна можна бачыць, як горка памыляюцца тыя, што праз гордасьць і заразумеласьць адмаўляюцца выконваць Божую волю. У краінах, дзе свабодна ня выконваецца Божая воля, там людзі змушаны грубаю сілаю пакорна выконваць бязглуздую волю розных прайдзісьветаў; дзе свабодна ня схіляюць галавы перад Богам, там прымушаны, вобразна кажучы, лізаць боты тыранаў.

У абліччы гэтых фактаў ясна відаць, як вялікую ролю пакліканая выканаць Марыя ў дачасным сьвеце. Хто гэта ўцяміць, той ацэніць, як дарагою для нас была, ёсьць і заўсёды будзе Багародзіца і не патрабуе больш ніякае заахвоты, каб яе ўзьвялічваць і славіць, бо гэта радасна выканае сам і праз гэта аддасьць славу Самому Богу. Не дарма самая Марыя, адведваючы сваю цётку Альжбету, у натхненьні сьпявала: «Ад сёньня Мяне будуць называць багаслаўлёнай усё народы» (Лук. І,48). І гэтае прароцтва спраўджваецца дасловна. Сёлетні Марыйскі Год ёсьць найлепшым сьведчаньнем гэтага. Аднachасна ўслаўленьне Марыі і пераняцьце Яе прыкладу ёсьць пэўнаю зарукаю хуткае перамогі Божае ласкі і хрысціянскае любові над цёмнымі сіламі. Дык і мы, прынамся тыя, што на эміграцыі маем неабмежаваную свабоду рэлігійных практыкаў, далучаем свой голас да агульнага хору, дакідаем, што можам для ўслаўленьня Багародзіцы і ад сябе асабіста і ад імя ўсяго беларускага народу, які сёньня пазбаўлены гэтае магчымасьці.

**а. Леў**

---

# Хрыстос — наш жыватворчы ідэал

Бог даў людзям нахіл імкнуцца ўпярод да штораз большае дасканаласьці ўва ўсіх галінах жыцьця. Канчатковую мэту для гэтага імкненьня азначыў Хрыстос, кажучы: «Будзьце дасканалымі, як і Айцец ваш Нябесны ёсьць дасканалы» (Мат. V,48). Але такая вышыня дасканаласьці шмат каго можа адстрашваць сваею веліччу і бесканечнасьцю. Ведаючы людзкую слабасьць, Хрыстос даў нам усё неабходнае, што можа падбадзёрваць на шляху да асягненьня найвышэйшае дасканаласьці. Найбольш падбадзёрваючым прыкладам ёсьць самое жыцьцё Хрыста і Ягоная навука. Хрыстос шмат разоў зьвяртаўся да сваіх вучняў і агулам да слухачоў, каб ішлі за Ім, каб былі Ягонымі пасьцежнікамі: «Я сьвятло сьвету, хто ідзе за Мною, той ня будзе хадзіць у цемры, але будзе мець сьвятло жыцьця» (Ів. VIII,12). А на іншым мейсцы: «Я і дарога, і праўда і жыцьцё; ніхто ня прыходзіць да Айца, як толькі праз Мяне» (Ів. XIV,6). А да апосталаў на Тайнай Вячэры кажа: «Я даў вам прыклад, каб як Я зрабіў вам, гэтак каб і вы рабілі» (Ів. XIII,25). Агулам трэба сказаць, што ўсё Эвангельле ёсьць сьвятлом і нявычарпальнаю навукаю для ўсіх людзей і ўсіх часоў.

Але ўсе заклікі і звароты Хрыста асталіся-б няўспрыймальнымі, калі-б Ягонае жыцьцё было для людзей чымсьці адстрашаючым, ці зьнеахвочваючым, тымчасам жыцьцё Хрыста да 30 гадоў навонках нічым ня вырозьнівалася ад жыцьця ягоных суродзічаў. У Назарэце Хрыстос быў падданым і паслушным Язэпу і Марыі, працаваў разам з імі і штодзенную сталярскую працаю зарабляў на кусок хлеба. Аднак у гэтым навонках нічым няпрыметным жыцьці ўкрывалася нязвычайнае ўнутранае жыцьцё: там палала бязьмежная любоў да Бога Айца і да канца адданая любоў да людзей, жаданьне прывесьці іх да дабра, красы, справядлівасьці і сьвятасьці. Калі-ж пасьля Хрыстос выступіў з укрытага жыцьця, каб навучаць людзей словам і чынам, тады пачаў выяўляць людзям бязьмежныя скарбы свайго ўнутранага жыцьця: любоў, справядлівасьць, міласэрнасьць, абурэньне на фарысэйства і сваю боскую моц аднесна да людзей, духаў і да няжывое прыроды. Але і тады Ён не адступаў ад прыродных нормаў і прыродных законаў: еў, піў, змучыўшыся адпачываў, спаў паводля вымаганьняў людзкое прыроды, каб магчы далей выконваць сваю вялікую місію.

У жыцьці Хрыста ня бачым пастаянных пастоў; толькі перад выступленьнем да публічнага жыцьця Ён аднойчы пасьціў 40 дзён. Ня мучыў Хрыстос цела бічаваньнем, або іншымі падобнымі суровымі аскетычнымі практыкамі. Агулам земскае жыцьцё Хрыста было так звычайным, што фарысэі няраз дакаралі Яго, калі бачылі, як Ён есьць і п'е з грэшнікамі і мытнікамі, быццам адзін з іх (Мат. IX,11). Але ў гэтым навонках звычайным жыцьці, заўсёды ў Хрыста палала нязьмерная любоў да Бога і людзей, і гэтая любоў завяла Яго на Крыж, на якім аддаў жыцьцё за збаўленьне сьвету.

Хрыстос ёсьць нашым ідэалам і да таго ідэалам куды больш даступным, чым іншыя вялікія і прыгожыя ідэалы, якія знайходзім у шматлікіх сьвятых і ўгоднікаў Божых, якія няраз адстрашваюць нас сваею суровасьцю, сваімі нязвычайнымі аскетычнымі практыкамі. Хрыстос будучы найвялікшым, найпрыгажэйшым, найсьвяцейшым ідэалам адначасна зьяўляецца найболыш даступным, мілым і любімым ідэалам, бо Ён самая крыніца жыцьця, самая Міласэрнасьць, самая Любоў. І калі мы стараемся йсьці за гэтым Божым Ідэалам і пэратвараем нашае жыцьцё паводля Яго, дык атрымліваем ад Яго бязупынную помач для гэтае вялікае і сьвятое працы. Тады мы ўвайходзім ў лучнасьць з самою крыніцаю жыцьця, праведнасьці, дабраты, міласэрнасьці, справядлівасьці і сьвятасьці.

За прыкладам Хрыста адважна йшлі апосталы і вялі за сабою вернікаў. Апосталы стараліся асягнуць якнайбольшую дасканаласьць, каб магчы сказаць іншым, як гэта казаў ап. Павал: «Пераймайце ад мяне прыклад, як я ад Хрыста» (І. Кар. IV,16). І ў гэтым кірунку апостал Павал так наблізіўся да Хрыста, што казаў: «Для мяне жыцьцё — гэта Хрыстос» (Філ. I,21). Гэта значыць, што ў сваім жыцьці ап. Павал стараўся быць падобным да Хрыста ўва ўсіх учынках і дзеяньнях і ўспрыняць усе Хрыстовыя рысы. У тым і ёсьць веліч сьвятасьці апостала і гэтую веліч ён праяўляў усюды, але хіба найбольш у сваіх місійных падарожжах падчас якіх ён усюды разносіў добрую вестку аб Хрысьце, тлумачыў сьвятое Эвангельле і выконваў яго, прасьвячаў іншых людзей і цэлыя народы эвангельскім сьвятлом, каб яны пазналі боскі Ідэал — Хрыста ды імкнуліся да Яго ў сваіх думках, жаданьнях і ўчынках. Маючы заўсёды Хрыста ў сэрцы і жывучы Ягоным жыцьцём ап. Павал аблягчаў сваю місію тым, што мог заўсёды казаць: «Прашу вас, браты, будзьце як і я» (Гал. IV, 12).

З жыцьця іншых апосталаў захавалася мала вестак, але з таго, што захавалася добра ведама, што ўсе апосталы, а за імі іхныя вучні з усею шчырасьцю пераймалі прыклад Хрыста ў сваім штодзенным жыцьці і гэта рабіла іхняе жыцьцё так прыгожым, так велічным і прыцягваючым, што хрысьціянская грамада хутка разрасталася не зважаючы на ніякія жарстокія прасьледаваньні.

Дык і ў нас за прыкладам апосталаў мусіць палаць Божая любоў, якая будзе зьбліжаць нашае жыцьцё штораз больш да нашага Ідэалу — да Хрыста. Гэтая любоў ў адмену ад земскае любові ёсьць адною з істотных азнакаў хрысьціянства і яна безьмежна ўпрыгожвае ды актывізуе жыцьцё. Людзі з шчыраю Боскую любоўю ў сэрцы здольны да найбольшых ахвяраў; іх ня спыняюць ні цярпеньні, ні Крыж ў імкненьні да свайго Божага Ідэалу — да Хрыста, зьбліжаючы адначасна людзей між сабою.

**а. Я. Тарасэвіч.**

# Дадатак да сьпісу цудатворных іконаў Божае Маці на Беларусі

У нумарох 58-60 «Божым шляхам» падаваўся сьпіс больш ведамых цудатворных іконаў Божае Маці на Беларусі, але нажаль той сьпіс ня ёсьць поўны, бо пры яго ўкладаньні аўтар ня мог знайсьці такіх кнігаў, як: А. Сапунов, Древнія иконы Божіей Матери в Полоцкой епархіи. Витебск 1888 г. і Архим. Николай, Историко-статистическія свѣдѣнія о чудотворных иконах и благочестивых обычаях в Минской епархіи. С. Петербург 1864.

Магчыма так-жа, што ёсьць іншыя творы, у якіх можна знайсьці нямала вартасных вестак адносна нашых старых і навейшых сьвятасьцяў. Вось прыпадкам пераглядаючы «Catalogus ecclesiarum et cleri archidioecesis Vilnensis», выданы 1932 г. у Вільні, прышлося сьцьвердзіць, што там успамінаюцца некаторыя цудатворныя іконы, якіх няма ў тым сьпісе, таму падаём тут дадатковатыя весткі, якія падаены ў названым «Каталёзе».

**Гудагоская** ікона з XVIII ст. Перш яна была ў манастыры босых кармэлітаў, а потым перанесеная ў парахвіяльную каталіцкую царкву ў Гудагаях Ашмянскага раёну.

**Кашубінская** — паходзіць з XVII ст. і знайходзіцца ў парахвіяльнай царкве Непарочнага Зачацьця Н. Дз. Марыі ў Кашубінцах Скідэльскага раёну.

**Крывіцкая** — яе паходжаньне няведамае. Да



Смаленская цудатворная ікона Маці Божае зв. Уміленьне.



Бялыніцкая цудатворная ікона Маці Божае.

вайны знайходзілася ў парахвіяльнай каталіцкай царкве ў Лідзкіх Крывічох, Жалудоцкага раёну. На іконе забражана Непарочнае Зачацьце Н. Дз. Марыі.

**Крыпненская** — паходзіць з XIX ст. Яна знайходзілася ў каталіцкай парахвіяльнай царкве Нараджаньня Н. Дз. Марыі ў Крыпно, Кнышынскага раёну.



Пустынска-Патрыяршая цудатворная ікона Маці Божае.

**Эйсмонцкая** — праўдападобна з XVII ст. Яна знайходзілася ў каталіцкай парахвіяльнай царкве ў Вялікіх Эйсмонтах каля Гогардні.

Дадаткова падаём таксама копіі тых беларускіх іконаў, якія ў міжчасе пашчасьціла здабыць..

**а. Л. Гарошка.**

# Пад знакам „рускае і польскае веры“

**(Працяг 3-і)**

**НА ПЯРЭДАДНІ ДРУГОЕ СУСЬВЕТНАЕ ВАЙНЫ**

Палітыканства польскага каталіцкага духавенства ў беларускіх парахвіях адбівалася вельмі шкодна на рэлігійным жыцьці. Аб гэтым няраз зьяўляліся весткі ў беларускай прэсе і аб гэтым часта гаварылі вернікі ды нават пісалі аб гэтым

да біскупаў. Для прыкладу можа служыць ліст вернікаў з парахвіі Мядзьведзічы Пінскае дыяцэзіі з 1935 г. Яны між іншым пісалі: «Просім вышэйшую ў нас каталіцкую ўладу, даць нам ксяндзоў беларусаў і ўвесьці ў касьцёл нашую беларускую мову, бо ў праціўным выпадку скора касьцёл наш саўсім апустошыцца і народ наш адзічэе» (77).

Відаць аднак, што польскія біскупы рабілі быццам наўмысьля, каб апустошыць беларускія каталіцкія сьвятыні і каб пасьля гэтага ксяндзы маглі бяскарна звальваць віну за гэткі стан на вернікаў. Праўда гэтае цьверджаньне нельга ўагульніваць, бо пакуль у Пінску жыў Я. Э. Жыгімонт Лазінскі († 1932) дык ён хоць і не азначаўся асабліваю прыхільнасьцю для беларусаў, але так-жа не баяўся выступіць супраць загоністых дамаганьняў польскіх нацыяналістаў адносна беларусаў. Аднойчы ён выпрасіў за дзьвёры высокага польскага гэнэрала, які дамагаўся зьнішчэньня ўсяго беларускага ў рэлігійным жыцьці, а іншым разам патрапіў сказаць цьвёрдае слова за гэткае-ж дамаганьне нават самому маршалку Пілсудзкаму. Нажаль і гэты ерарх уканцы ўлягаў націску польскіх кіраўнікоў і паволі ачышчаў Пінскую Дух. Сэм. ад беларускасьці і ад беларусаў, а беларускіх сьвятароў пераносіў у парахвіі з польскім насельніцтвам. А ягоны наступнік ад 1932 г. Я. Э. Казімер Букраба ў сваёй дзейнасьці стараўся прыпадобніцца да міт. Ялбжыкоўскага.

«Чыстка» духоўных сэмінарыяў у Вільні і Пінску ад беларусаў выконвалася ціха, але адзін выпадак вынес гэтую дзейнасьць на дзённае сьвятло. Выкідаючы бяз ніякае прычыны ў 1935 г. з Віленскае Дух. Сэм. Вацлава Папуцэвіча, запрапанована яму ехаць у якую колечы сэмінарыю ў цэнтры Польшчы. Беларуская прэса зьвярнула ўвагу на гэтае здарэньне (78) і факт стаўся шырока ведамы. Ад таго часу ў абедзьве сэмінарыі больш беларусаў агулам ня прыймалі.

Такая рэлігійная палітыка падрывала каталіцызм у сваіх асновах, але нажаль польскія духоўныя кіраўнікі яе прытрымоўваліся на Беларусі з крайным засьляпленьнем. Асабліва натлядна гэта выявілася ў адносінах да Беларускае Каталіцкае Акцыі. На арганізацыйным сходзе беларускага каталіцкага актыву ў Вільні 8.X.1936 г. было пастаноўлена заснаваць Беларускую Каталіцкую Акцыю. Тымчасовая ўправа гэтае арганізацыі на чале з а. Гэрмановічам зьвярнулася да кампэтэнтных духоўных уладаў у Вільні з просьбаю аб зацьверджаньні новае арганізацыі. Справа была выслана ў Пазнань, дзе знаходзіўся цэнтр Каталіцкае Акцыі на ўсю Польшчу. Адтуль адказалі, што ня можа быць самастойнае Беларускае Каталіцкае Акцыі (ня кажучы чаму), але можа быць толькі беларуская сэкцыя пры мяйсцовай дыяцэзальнай Кат. Акцыі. Справа зноў знайшлася ў Віленскай дыяцэзальнай канцыляры і адтуль пасьля розных абяцанак і адкладаў у лютым 1937 г. адказалі, што і беларуская сэкцыя Кат. Акцыі ня можа быць зацьверджана. Выходзіла так, што беларусам каталіком з сваім рэлігійным жыцьцём у каталіцкай Польшчы трэба было хавацца ў катакомбы.

Час, аб якім тут гаворыцца, у міжнародным жыцьці азначаўся ўзрастаючым напружаньнем. І ў меру таго, як гэтае напружаньне ўзрастала, збольшваўся польскі наступ на беларускае каталіцкае жыцьцё. Але ў гэтым наступе апошніх гадоў неабходна разрозьніць наступ палітычных кіраўнікоў ад дзейнасьці польскага духавенства.

Вышэй пералічаныя факты сьведчаць, што наступ польскіх рэлігійных кіраўнікоў на беларускае рэлігійнае жыцьцё ўсьцяж узрастаў, аднак польскія дзяржаўныя дзеячы лічылі, што гэты наступ быў яшчэ заслабы і пачалі самі пераймаць на сябе ролю «місіянэраў» у шырэньні каталіцызму («польскае веры») на т. зв. Крэсах Усходніх.

Вельмі актыўна ўзяліся за «місіянэрства» афіцэры з Корпусу Ахароны Прыгранічча. Яны стэрарызаваўшы папярэдня жыхароў праваслаўнае вёскі Грынкі на Валыні, перавялі 19 сьнежня 1937 г. большасьць жыхароў гэтае вёскі ў каталіцызм лацінскага абраду, перапісваючы іх адначасна на палякаў. Захопленыя гэтым прыкладам, польскія прыгранічнікі пачалі падобную «місійную працу» ўздоўж усяе ўсходняе граніцы. Вынікі такое «місійнае» працы былі нязначныя, але гоману было шмат. Таму аднак, што ў аграмаднай большасьці прыгранічных вёсак насельніцтва катэгарычна адмаўлялася ад пераходу на «польскую веру», дык пачаў пашырацца тэрор у розных прыхаваных і яўных формах. Украінскі пасол Скрыпнак інтэрпэляваў у гэтай справе 1 лютага 1938 г. На інтэрпэляцыю адказаў прэм'ер міністар гэн. Славой-Складкоўскі, заяўляючы, што насельніцтва ў прыгранічных вёсках пераходзіць на каталіцызм дабравольна і што там ніякага прымусу адміністрацыйныя ўлады ня робяць (79). Але роўна тры тыдні пасьля заявы прэм'ер-міністра ноччу 21 сакавіка некалькі сялян з успомненае украінскае вёскі Грынкі, якія катэгарычна адмовіліся перайсьці ў «польскую веру», атрымалі загад ад Валынскага ваяводы неадкладна пакінуць родную вёску.

На беларускіх прыгранічных абшарах «місійная праца» Корпусу Ахароны Прыгранічча міма

77. «Chryscijanskaja Dumka» Nr. 4 (106), Vilnia 1935.

78. Глядзі: «Беларуская Крыніца» Нр. 40, Вільня 1935 г.; «Шлях Моладзі» Год VII, Нр. 12 (85), стар. 15, Вільня, 1935.

79. «Церква і Нарід» Крем'янець 1938 г. стар. 140.

вялікае прапаганды ня прыносіла жаданых вынікаў, але затое адміністрацыйныя ўлады пачалі высяленьне з прыгранічнае смугі «няпэўнага элемэнту». Відаць, што да найбольш няпэўных былі залічаны беларускія каталіцкія сьвятары і каталіцкі актыў, бо ад іх пачалася «чыстка» прыгранічча. Загадам Віленскага ваяводы Бацянскага 10.VI. 1938 г. мусілі выехаць з Друі беларускія айцы марыяне: Язэп Дашута, Казімер Смулька, Віталі Хамёнак, і Юры Кашыра. Праз пару дзён, вярнушыся ў Друю з дазволу ваяводы, яны былі адтуль выселены прымусова 23.VI.1938 г. У зьвязку з гэтаю падзеяю польская прэса загаварыла на ўсе лады. Зьявіліся крайне бяглуздыя напасьлівыя артыкулы ў шавіністычнай прэсе (80), але зьявіліся так-жа і абаронныя галасы (81). Польскае Міністэрства Унутраных Спраў не жадала прыслухоўвацца да ніякіх цьвярозых галасоў і пастанавіла акцыю высяленьня яшчэ ўзмоцніць; загадам з 25.VI.1938 г. была пашырана прыгранічная паласа на 150 км. Гэткім чынам большая частка беларускіх абшараў знайшлася ў сфэры, з якое адмінстрацыйныя ўлады маглі бяскарна высяляць каго хацелі пад прэтэкстам «няпэўнага элемэнту».

Новы загад шырока адчыняў дзьверы для польскае адміністрацыі ў змаганьні з беларускім актывам. Усьлед за ўспомненымі айцамі марыянамі з тэй-жа Друі 8.VII. былі выселены 5 марыянскіх клерыкаў, у іх ліку 4 беларусаў: Антон Падзява, Чэслаў Сіповіч, Казімер Саруль і Боніфац Саруль. А 10.VII выселілі з Вільні а. Язэпа Гэрмановіча, так-жа марыяніна. Ня ўсьпела яшчэ ўлягчыся вестка аб пагроме айцой марыянаў, як 28.XI.1938 г. выселена з Вільні: кс. Адама Станкевіча, кс. Уладыслава Талочку і інж. Адольфа Клімовіча, а 15.V.1939 г. выселена з Стоўбцаў а. Льва Гарошку. Усё гэта дзеялася сапраўды як на пусты канец і той канец хутка набліжаўся.

У верасьні 1939 г. фанабэрысты польскі дзяржаўны апарат, які зьбіраўся паставіць крыж на магіле беларускага нацыянальнага і рэлігійнага жыцьця, распырснуўся сам як мыльная бурбалька, а польская каталіцкая ерархія на Беларусі часткава разгубілася. Пінскі біскуп Казімер Букраба ўцёк у Львоў, а ягоны суфраган Кароль Няміра ўцёк у Варшаву, некаторыя ксяндзы палякі такжа павыязджалі з Беларусі, але тыя, што асталіся, прадаўжалі сваю працу на стары лад. Ня могучы, бяз згоды свае ерархіі, уводзіць якіхсьці зьменаў, яны няраз ставаліся ахвярамі новых рэжымаў — перш бальшавіцкага і асабліва потым назістоўскага. У 1942 г. нямецкае Гэстапо, выкарыстала адмову некаторых польскіх ксяндзоў у Баранавіцкай і Слонімскай акругах увесьці беларускую мову ў казаньні, каб правесьці масавыя арышты і растрэлы ў радох каталіцкага духавенства. Тыя, што асталіся пры жыцьці, пачалі пакрысе ўводзіць беларускую мову ў касьцёлы.

У Віленшчыне і Лідчыне ніякіх зьменаў на лепшае ў беларускіх парахвіях ня сталася. Мітр. Ялбжыкоўскі аставаўся ў Вільні да 1945 (?) г. і праводзіў далей сваю палітыку. Толькі апыніўшыся ў межах летувіскае рэспублікі, мусіў прызнаць летувісам належнае права ў рэлігійным жыцьці, а да беларусаў і далей адносіўся варожа. А нават у 1943 г. быў прыслаў суспэнзу кс. Вінцэсю Гадлеўскаму за тое, што ён працаваў у Менску на беларускай рэлігійнай і градзкай ніве. Тая суспэнза мае асаблівую вымову, бо яна падпісана ўжо пасьля сьмерці кс. Гадлеўскага († 1942), які злажыў сваё жыцьцё за беларускую рэлігійную і грамадзкую справу.

Вяковую прапаганду «польскае веры» практычна выкарысталі бальшавікі ў 1945-47 гадох, тады каля 500.000 беларусаў каталікоў лац. абраду згаласілася на выезд у Польшчу, для засяленьня новапрылучаных абшараў, зьнішчаючы праз гэта аўтаматычна большую частку каталіцкіх парахвіяў у Беларусі.

## КАТАЛІЦЫЗМ УСХОДНЯГА АБРАДУ

Між вышэй пералічанымі фактамі, толькі сямтам закранаўся каталіцызм усх. абраду (Вунія) на Беларусі. Займёмся ім тут асобна, бо ў гісторыі Беларускае Царквы ён займае асобнае мейсца.

Ніводная старонка гісторыі Беларусі агулам і гісторыі Царквы ў асобнасьці ня была так тэндэнцыйна асьветліваная і перакручваная гісторыкамі суседніх нам народаў, як гісторыя каталіцызму усх. абраду (Вуніі). І гэта ня дзіва, бо-ж нічога так ня супярэчыла «рускай веры» з аднаго боку і «польскай веры» з другога боку, як каталіцызм усх. абраду.

Самыя прычыны зьяўленьня каталіцызму усх. абраду звычайна падаваліся або фальшыва, або ў лепшым выпадку зусім прамоўчваліся. Тымчасам каталіцызм усх. абраду (Вунія) на Беларусі і Украіне ня ёсьць ані зьявішчам прыпадковым, ані накіненым, але жыцьцёваю канечнасьцю і творам самых беларусаў і украінцаў. Перагаворы, якія перад падпісаньнем Вуніі вяліся ў высокіх кіруючых кругох, зусім не зьмяняюць гэтага цьверджаньня, бо-ж у часе Ліёнскае, і асабліва Флёрэнтыйскае рэлігійных Вуніяў у высокіх кіруючых кругох гаварылася яшчэ больш, але вынік іх быў блізка што ніякі, бо ў іх амаль ня ўдзельнічалі самыя зацікаўленыя народы.

Агулам ведама, што на пачатку XVI ст. Каталіцкая і Праваслаўная Цэрквы на Беларусі **і Украіне**, а так-жа і ў суседніх краінах былі ў паваж-

---

80. Напрыклад «Ilustrowany Kurjer Codzienny», з дня 26. VI. 1938 г. закідаў беларускім айцом Марыянам камунізм.
81. **o. J. Urban, Monachomachija w Drui. «Oriens» Nr 4. Krarow 1938.**

ным упадку. У тым часе зьявілася новае веравызнаньне — пратэстантызм з сваімі шматлікімі сэктамі і беларускія магнаты і шляхта пачалі масава прымаць новую веру. Напрыклад у Наваградзкім ваяводзтве з 600 шляхоцкіх родаў толькі 16 захавала веру сваіх бацькоў (82). Каталіцкія і асабліва праваслаўныя цэрквы хутка пусьцелі, адначасна моцна радзелі рады беларускага актыву, бо новыя веравызнаньні йшлі да нас праз Польшчу і мелі выразна польскі характар. Калі перш каталіцызм лацінскага абраду меў літургічную мову лацінскую, а праваслаўе — царкоўна-славянскую, дык пратэстанцкія сэкты ўводзілі ўсюды ў сваіх багаслужэньнях польскую мову, школы, якія яны закладалі, былі так-жа польскія, асабліва моцна польскі характар мелі кальвінскія школы (83).

Для ратаваньня палажэньня каталіцызму Віленскі біскуп Пратасэвіч заклікаў у 1569 г. з Польшчы езутаў. Яны ўзяліся актыўна і ўмела за працу і адраджэньне каталіцызму лац. абраду пайшло хуткім крокам наперад, але адначасна пачалося замацоўваньне тае палянізацыі, якую распачаў пратэстантызм, бо пераходзячы з розных сэктаў на каталіцызм беларуская шляхта і магнаты, захоўвалі тую польскасьць, з якою яны зблізіліся ў пратэстантызьме.

З другога боку, у Маскве ў 1589 г. заснаваўся патрыярхат і распачаліся стараньні падпарадкаваць Маскве Беларускую і Украінскую Прав. Царкву. Да таго ўсяго агульны стан Праваслаўнае Царквы вымагаў неадкладнага ўздыму. Брацтвы, якія ў тым часе засноўваліся, рабілі розныя стараньні ў гэтым кірунку, але праз свой сьвецкі характар часта ўвайходзілі ў канфлікт з ерархамі і праз гэта яшчэ збольшвалі патрэбу сапраўднае рэформы.

У гэткім становішчы агулам існаваньне Беларускае Царквы і беларускага нацыянальнага жыцьця было паважна загрожана. Неабходна было шукаць нейкае рады і тады, кінутая некаторымі духоўнымі думка аб аднаўленьні Флёрэнтыйскае Вуніі знайшла ў радох беларускіх дзеячоў жывы адгалосак. Распачатыя ў 1590 г. нарады япіскапаў заўсёды канчаліся пастановамі, што толькі аб'еднаньне Праваслаўнае Царквы з Каталіцкаю (Вунія) можа прынесьці сапраўднае адраджэньне для беларускага рэлігійнага жыцьця і захаваньне яго своеасаблівых нацыянальных формаў. Да гэтага трэба мець на ўвеце, што да гэтага часу Каталіцкая Царква на Беларусі нават і ў лацінскім абрадзе мела беларускі характар, як аб гэтым ужо ўспаміналася перш (84).

Шмат хто з ворагаў Вуніі падчыркваюць асабліва вялікую ролю езуітаў у падрыхтоўцы Вуніі, спасылаюцца пры гэтым на кніжку польскага езуіта а. Пятра Скаргі «Аб адзінстве Царквы...» (Вільня 1577). Бязумоўна, што стараньні з боку езуітаў у гэтым кірунку былі, але трэба ведаць, што ў той час езуіты былі бадайшто наймені нацыяналістычна настроеныя ў параўнаньні да іншых чынаў, што былі ў Польшчы. Яны прыйшоўшы на Беларусь спачатку нават вучыліся беларускае мовы і на юбілеях гаварылі казаньні пабеларуску. Першы беларускі каталіцкі катэхізіс, выданы ў Вільні ў 1585 г. ёсьць творам айцоў езуітаў (85). У езуіцкіх школах выкладалася беларуская мова. Нажаль потым гэтыя выклады вяліся так, каб тую мову асьмешыць. Што да кніжкі а. Скаргі, дык калі-б яна сапраўды мела ўплыў, дык-бы Вунія мусіла зьявіцца хутчэй, але пазьнейшыя палемічныя супрацькаталіцкія кніжкі, якія бяз сумніву мелі большы ўплыў на тагачаснае грамадзтва, бо вывучаліся напамяць, напэўна яе ўплыў зьнішчылі-б дазваньня.

Вырашаючую ролю ў аб'еднаньні Цэркваў мелі беларускія рэлігійныя і дзяржаўныя дзеячы. Тагачасны кароль Жыгімонт Ваза (1587-1632) быў вельмі прыхільны Вуніі, гэта праўда, і моцна яе ўспамагаў, але ён ня быў палякам, а швэдам, пры тым ён быў у аднолькавай ступені як польскім так і беларускім, і украінскім, і летувіскім каралём, бо ад часу Люблінскае вуніі гэтыя народы тварылі супольную дзяржаву, якая афіцыяльна называлася Рэчыпаспалітая. І супольны кароль рэпрэзэнтаваў навонках дзяржаўныя інтарэсы кожнага народу, таму праз яго і зьвярнуліся нашы прадстаўнікі ў Рым.

Улада караля ў тагачснай Рэчыпаспалітай была невялікая, а на Беларусі сапраўдную ўладу меў канцлер Леў Сапега. Лішнім было-б тут паўтараць, што ён азначаўся гарачым патрыятызмам і ў абароне правоў Вялікага Княства няраз супрацьставіўся нават самому каралю, як гэта было ў 1591 г., калі ён рашуча адмовіўся прызнаць новага кандыдата на Віленскае біскупства, якога самавольна быў назначыў кароль. Бязумоўна, што Леў Сапега, калі-б бачыў якую небясьпеку, ці шкоду для Беларусі ад прыняцьця Вуніі, дык-бы ёй рашуча супрацівіўся. Тымчасам ён актыўна ўдзельнічаў у яе падрыхтоўцы і правядзеньні, як аб гэтым сьведчыць ліст папы Клімэнта VIII з 7.2. 1596 г. (86) і шматкротныя прызнаньні самога Сапегі.

82. St. Kot. La Réforme dans le Grand-Duché de Lithuanie, Facteur d'occidentalisation culturelle. (Anauaire de l'Institut de Philologie et d'Histoire Orientale et Slaves. Tome XII. ΓΙΑΓΚΑΡΠΕΙΑ. Bruxelles, 1953, star. 238.
83. Lukoszewicz J., Historja szkół w Korone i w Xiestwie Litewskim od najdawniejszych czasow do 1794 r. Tom III. Poznan 1854.
84. Глядзі «Божым шляхам» Нр. 60, стар. 23.
85. Е. Карскій. Бѣлоруссы. Том І. ч. 1, стар. 401. Вільно 1904.
86. Theiner A., Vetera Monumenta Poloniae et Lithuaniae gentiumque finimitarum historiam illustrantia. T. III. star. 257-258, Romae 1863.

Падобнае становішча адносна Вуніі займалі іншыя тагачасныя беларускія дзеячы. Напрыклад Віцебскі ваявода Мікола Сапега, будучы сам кальвіністам, на сынодзе ў Кракаве ў 1595 г. заявіў папскаму нуцыю Гэрману Маляспіна, што пяройдзе ў Беларускую (у арыгінале ў Рускую) Царкву, калі Апостальскі Пасад прыйме гэтую Царкву да еднасьці, а калі гэта ня станецца, дык пяройдзе на лацінскі абрад (87). Відавочна, што большасьць тагачасных беларускіх дзеячоў думала як Сапега, але гэта якраз было не на руку палякам.

Акт аб'еднаньня Цэркваў, падпісаны ў Берасьці 8 кастрычніка 1596 г. агулам на Беларусі быў прыняты прыхільна аграмаднаю большасьцю насельніцтва, бо ўсе беларускія ерархі падпісалі гэты акт, не зважаючы на варожую прапаганду прарасейска настроеных брацтваў і асабліва Кастуся Астрожскага. Змаганьне вакол Вуніі на Беларусі зьявілася толькі ў 1620 г. у зьвязку з высьвячэньнем новае праваслаўнае ерархіі і інтрыгамі гэтае ерархіі, паводля інструкцыяў з Масквы.

Расейскія і прарасейскія царкоўныя і сьвецкія гісторыкі шмат пісалі і цяпер яшчэ паўтараюць, быццам Вунія заводзілася насільна, а тымчасам Львоўскі і Пярэмыскі япіскапы зусім свабодна адступілі ад сваіх папярэдніх асьведчаньняў на карысьць Вуніі і яе акту не падпісалі; праваслаўныя брацтвы свабодна прадаўжалі сваю дзейнасьць на Беларусі і Украіне, існавалі далей праваслаўныя парахвіі ў гарадох і вёсках. Праўда здараліся выпадкі, што шляхта рабіла няраз адносна праваслаўных розныя карыгодныя вычыны, але яшчэ больш падобных вычынаў гэтая-ж шляхта рабіла адносна вуніятаў. Анархізм польскае шляхты агульна ведамы і яго ў ніякім выпадку ня можа браць на свой рахунак Вунія, якая цярпела ад яго больш чым хто.

У супрацьвунійнай літаратуры шмат прысьвячаецца мейсца на тое, каб падчыркнуць пагляд, быццам Вунія была творам палякаў. Калісь асабліва расьпісваліся аб гэтым расейцы, каб скампрамітаваць у вачох вернікаў каталіцызм усх. абраду. Але ніякіх доказаў на гэтае цьверджаньне не падаецца, бо-ж іх няма. Замест доказаў часам спасылаюцца на падтрымку Вуніі з боку караля, які, як было ўжо ўспомнена перш, ня быў палякам. Аб ролі езуітаў ужо так-жа ўспаміналася перш. У сапраўднасьці польскія дзяржаўныя і рэлігійныя кіраўнікі былі варожа настроены да Вуніі і рабілі ўсё ад іх залежнае, каб яе гнобіць і нават зусім зьнішчыць. Пры тым трэба зацеміць, што фактаў варожасьці палякаў да Вуніі ёсьць такая колкасьць, што нават самыя польскія гісторыкі ня могуць іх абыходзіць моўчанкаю і часам пробуюць апраўдваць гэтую варожасьць засьляпленьнем польскае шляхты (88), а засьляпленьнем расейскіх гісторыкаў трэба тлумачыць упартае паўтараньне фальшывых абвінавачаньняў.

Засьляпленьне было не адзінаю прычынаю варожасьці палякаў да Вуніі, але нам важна сьцьвердзіць сам факт, што гэтая варожасьць была і яна ўсьцяж узрастала ў меру пашырэньня Вуніі. Характэрна, што польскія біскупы не абмяжоўваліся выяўленьнем гэтае варожасьці ў сваім асяродзьдзі, але слалі ў Рым розныя мэморандумы з дамаганьнем скасаваньня Вуніі. І гэтых дамаганьняў было толькі, што быў час, калі «ў Рыме ўжо былі пачалі сумнявацца ў трываласьці Вуніі» (89). Практычна гэта значыць, што ўжо рыхтаваўся дэкрэт аб яе скасаваньні і гэта толькі сьмерць сьв. Ёзафата зьмяніла палажэньне.

Аднак польскіх настрояў сьмерць сьв. Ёзафата не зьмяніла, толькі на некаторы час была іх крыху зьменшыла. Польскі рэлігійны гісторык біск. Лікоўскі кажа: «Каталіцкія біскупы і сэнатары амаль зусім не падтрымоўвалі вуніяцкае справы, наадварот, яны часта выступалі варожа супраць яе. Дзеля іхняе віны вуніяцкія біскупы ня былі дапушчаны да сэнату. Цяжка паверыць якое пагарды, якога лёгкаважаньня дазнавалі вуніяцкія біскупы ад лацінскіх біскупаў і агулам ад польскага грамадзтва» (90), і далей Лікоўскі падае цэлы рад фактаў варожасьці, выпісваючы іх толькі часткова з справаздачы мітр. Руцкага ў Рым. Польскія манахі, а нават біскупы ў вочы казалі мітр. Руцкаму: «Лепей зьнішчыць беларуска-украінскую Вунію, як яе падтрымоўваць» (91).

Тут варта забегчы наперад і сьцьвердзіць, што варожасьць палякаў да Вуніі ніколі не зьмяншалася, але чым далей дык узрастала. Кароль Ян Казімер веў перагаворы з казакамі, каб зьнішчыць зусім Вунію — гэтыя перагаворы вяліся тайна, але ў гэтым-жа часе рабіліся больш яўна розныя праекты аб зьнішчэньні Вуніі, аб іх пісаў у Рым холмскі вун. біскуп Якаў Суша ў 1664 г. Характэрна, што амаль перад самымі разборамі Рэчыпаспалітае быў зьявіўся нават у асяродзьдзі езуітаў «Праект для зьнішчэньня грэка-кат. усходняга культу», у якім на апраўданьне таго «праекту» кажацца: «Мы, палякі, шчыра жадаючы аб'еднаньня і бясьпекі нашае бацькаўшчыны, павінны зрабіць усё, каб увесьці адзінства між жыхарамі нашага каралеўства. Але таму што ў рускіх пра-

87. Архіў Ват. Фонду Боргэзэ III., паводля: о. д-ра А. Великий, І ще раз до причини українського католицизму (Унії), «Шлях» 28. XII. 1952 г.

88. P. Lescoeur, L'Église Catholique en Pologne Ed. 2: T. I Paris 1876. s. 33:

89. Gépin Alfons, Zywot S. Jozafata Kuncewicza rit. gr. opowiedziany na tle Historyj Kosciola Ruskiego z przedmowa x. Kalinki. Lwow 1885. s: 274

90. Harasewicz M., Annales Ecclesiae Ruthenae. Lemberg 1862, star. 289.

91. x. bisk. Likowski Edward, Unia Brzeska. Poznan 1896, star. 313-320.

вінцыях, якія належаць або да Польскае Кароны, або да Вялікага Княства Літоўскага, гэтае адзінства адносна народу зьнішчана праз розьніцу культу, дык польская дзяржава і кожны паляк, які жадае захаваць адзінства і бясьпеку бацькаўшчыны, павінны лічыць сваім абавязкам вынішчэньне грэцкага культу (усходніх католікаў і праваслаўных) так праціўнага лацінскаму культу, усімі магчымымі сродкамі» (92). Вось-жа гэта ўжо была варожасьць, якая выступала супраць Вуніі амаль нароўні з варожасьцю расейцаў, а гэтая апошняя агульна ведемая.

Практычна варожасьць палякаў да Вуніі спачатку праяўлялася ў розных упакараньнях так духавенства, як і вернікаў. З гэтага гледзішча няраз палажэньне каталікоў усх. абраду было шмат горшым, як праваслаўных. Бо праваслаўныя мелі магутную абарону ў асобе Астрожскага, казакоў і расейскага ўраду, а ў абароне каталікоў усх. абраду адзіна выступаў толькі Рым. І было сапраўды дзівосна, калі на соймах праваслаўныя выступалі з абвінавачаньнямі супраць вуніятаў, быццам церпяць ад іх напасьці, ня маючы на доказ сваіх слоў ніякіх фактаў. У 1621 г. адказваючы на гэткія закіды, мітр. Руцкі казаў: «Нам робяць закід, што мы шукаем крыві. Каго мы замардавалі? А тымчасам не аднаго ўжо з нашых манахаў замардавалі праваслаўныя» (93). І сапраўды за Вунію ў 1618 г. казакі ўтапілі ў Дняпры ў Кіяве базыльяніна Антона Грэковіча, у 1620 г. праваслаўны сьвятар засек сякераю падчас Службы Божае базыльяніна Антона Буткевіча каля Пярэмышля, у тым-жа 1620 г. 70 казакоў у Кіяве з намовы патр. Тэофана і ў яго прысутнасьці зрабілі згавор на жыцьцё мітр. Руцкага. У далейшых гадох лік ахвяраў за Вунію не пераставаў ўзрастаць: у 1623 г. забілі ў Віцебску сьв. Ёзафата Кунцэвіча, у 1623 г. казакі ў Кіяве забілі а. Юзэфовіча і ўтапілі войта Хведара Хадыку, колькі загінула сьвятароў і вернікаў вуніятаў у часе казацкіх войнаў, толькі адзін Бог ведае, так-жа неадзін вуніят аддаў сваё жыцьцё за веру, калі расейскія войскі былі часова занялі Беларусь падчас вайны за Украіну 1654/67. Калі ў 1704 г. расейскі цар Пятро І знайшоўся на беларускіх землях, дык у Полацку ўласнаручна засек некалькі базыльянскіх манахаў у царкве, а на Украіне расейскія войскі, заняўшы Луцк арыштавалі вун. яп. Дыянізія Жабокрыцкага, вывезьлі ў Маскву і там царскі суд асудзіў яго на ссылку, у якой ён пасьля 6 гадоў памёр. У далейшым ліста ахвяраў за Вунію разраслася да нязьлічаных тысяч. Дык хто ад каго цярпеў напасьць?

Але ёсьць яшчэ адзін закід, які расейскія і прарасейскія гісторыкі ўсьцяж паўтаралі і паўтараюць яго на ўсе лады сёньня пад адрасам Вуніі, быццам яна была мосьцікам да латынізацыі і палянізацыі. Гэты закід яшчэ больш беспадстаўны чым папярэднія, бо-ж палянізацыя на Беларусі і Украіне распачалася задоўга перад падпісаньнем Вуніі. Ужо перш успаміналася, як бяз ніякага мосьціку праваслаўныя пераходзілі масава ў розныя пратэстанцкія сэкты з выразным польскім характарам, а потым так-жа перад Вуніяю пакрысе пачалі з пратэстантызму пераходзіць у каталіцызм лацінскага абраду. Сматрыцкі ў сваім «Трэносе» пералічае беларускія шляхэцкія роды, якія яшчэ да Вуніі пакінулі Праваслаўную Царкву (94) і гэта толькі людзі крайне злое волі той пераход могуць ускладаць на рахунак яшчэ ня існуючае тады Вуніі. Паводля думкі беларускіх тварцоў Вуніі, яна мела стацца якраз тым дзейнікам, які адзіны мог устрымаць масавую хвалю палянізацыі на Беларусі. Тым і тлумачыцца польская варожасьць да Вуніі, бо з праваславія яны маглі бяз ніякіх перашкодаў ці праз пасрэдніцтва пратэстанцкіх сэктаў, ці беспасрэдна наварочваць на каталіцызм лацінскага абраду і палянізаваць, тады як каталіцызм усходняга абраду рабіў ім у гэтым перашкоды. Найлепшы доказ праўдзівасьці гэтага цьверджаньня маемо з сям'і Кастуся Астрожскага, найбольшага тагачаснага абаронцы праваславія і ворага Вуніі; і вось яшчэ за жыцьця Кастуся Астрожскага ўсе яго дзеці перайшлі ў каталіцызм лацінскага абраду і ўспамагалі польскую акцыю. Аднак да гэтага цьверджаньня можна зацеміць, што ўсё-ж было шмат фактаў пераходу з Вуніі ў лацінства! Гэтая зацемка ня зусім дакладная, бо найчасцей гэта былі не пераходы, але бяспраўныя перацяганьні, супраць чаго вуніяцкія ерархі і Рым выступалі з усёю рашучасьцю, а чаго палякі не хацелі слухаць. У гэтым дачыненьні часам дзеяліся выпадкі сапраўды скандальныя, напрыклад дэкрэту Кангрэгацыі для Пашырэньня Веры з дня 7.2.1624 г., зацьверджанага папаю, які забараняў пераход з усходняга абраду на лацінскі, кароль Жыгімонт Ваза не дазволіў апублікаваць у Рэчыпаспалітай (95).

Часам аднак некаторыя заўважваюць, што Вунія была мастком для палянізацыі сялянства, якое азначалася большым, як шляхта консэрватызмам. Аднак беспадстаўнасьць гэтага цьверджаньня ві-

92. Projet sur les moyens à employer pour exterminer le culte Greco-Russe Catholique d'Orient dans les provinces Russes Occidentales, présenté aux Etats de Pologne vers la fin du XVIII siècle par un P. Jésuite. Traduit par S. Sulema. Leipzig 1863, star. 5.

93. x. bisk. Likowski, Unia Brzeska, Poznan 1896, star. 303.

94. Trenos θρῆνος czyli lament jednej swietey, powszechney, apostolskiey wschodniey Cerkwil z objasnieniem dogmat wiary przez Theopfila Orthologa. Wilno 1610, strr. 15.

95. Энцыкліка Сьвяцейшага Айца папы Пія XII з нагоды 350-ых угодкаў прыяднаньня Беларускае і Украінскае Царквы да Апостальскага Пасаду. Рым 1946. стар. 14-15.

даць хоць-бы з таго, што беларускае сялянства 243 гады йшло гэтым «мастком» і не спалянізавалася, тое-ж было і з украінскім сялянствам, але затое, дзе гэтага «мастка» ня было там русыфікацыя зрабіла страшэнны поступ. Трэба памятаць так-жа і зусім сьвежы факт, што ў Польшчы перад 1939 г. Аўтакефальная Праваслаўная Царква за няпоўных 20 гадоў была спалянізавана больш, чым Вунія за 243 г. З вымоваю гэтага факту нельга ня лічыцца. Зрэштаю адносна пытаньня палянізацыі слушна кажа кс. Адам Станкевіч: «Ня трэба забывацца так-жа і таго, што калі-б ня Вунія, дык палякі ўсёроўна цягнулі-б беларусаў у лацінства, і тут больш загінула-б іх, была-б большая шкода Беларускаму Народу... Яны так і зрабілі ў 1938-39 гадох і тады цягнулі ня з вуніі, але якраз з праваслаўя на лацінства, бо з вуніі не маглі — залішне вялікія была перашкода» (96).

96. Кс. Адам Станкевіч, Хрысьціянства і Беларускі Народ. Вільня 1940.

(Працяг будзе)

# Плыве з-пад сьвятое гары Нёман *)

( У р ы ў к і )

### Малітва ў паруганай Белай Царкве

### I.

На Лепяльшчыне, на беразе прыгожага, падобнага па свайму ўзьбярэжнаму абрысу да маладзіка, Чарэйскага возера, знаходзіцца цяперашняе мястэчка Чарэя, а ў 15 стаг. сталіца Чарэйскага княства. І з якога боку не пад'яжджаць да Чарэі, адусюль аж за дзесяць кілямэтраў відаць паблізу ад яе на зялёным фоне лясоў ды пералескаў белы будынак, вядомы ў народзе пад адпаведным назовам Белае Царквы. Той самы назоў пашырыўся і на ваколічнасьць гэтае царквы, што знаходзіцца ў чатырох кілямэтрах ад Чарэі і ўзвышаецца над возерам. Калісьці валодалі тут князі Пяструцкія, бліжэйшыя сваякі Сапегаў. Аднаго з іх — Міхаіла князь Сьвідрыгайла ў 1433 г. утапіў ў Віцебску ў Дзьвіне, другі — Літоўскі праваслаўны Мітрапаліт Місаіл заснаваў ў 1454 г. на высьпе возера манастыр. З цягам часу, разам з домам кн. Пяструцкіх, заняпаў гэты манастыр, але ў 1599 г. яго аднавіў славуты Леў Сапега і адначасна пабудаваў на беразе царкву ў імя Сьвятое Тройцы, што больш знаная і ў народзе і ў літаратуры пад назовам Белае Царквы.



**Белая царква.**
**Здымак зроблены Ю. Віцьбічам у 1939 г.**

Мне давялося ў 1939 г. трапіць у Белую Царкву. Самая царква за год перад тым сталася сховішчам збожжа калгасу імя Вароўскага, які падтаптаў пад сябе бліжэйшую вёску Сеньніцы. Разам з усімі абразамі зьнікнуў тады і цудатворны абраз Белацаркоўскае Божае Маці. Аднак яшчэ задоўга перад бальшавікамі зьняважылі чатырохсотгадовы будынак расейцы, паставіўшы над ім, што дагэтуль захаваў рысы старасьвеччыны, свой шырокі кумпал. І калі раней царква па лёгкасьці сваіх прапорцыяў нагадвала карабель, што здаецца вось-вось адарвецца ад узвышша і паплыве над вазёрамі ды гаямі Лепяльшчыны, дык цяпер

*) А д а ў т а р а . Нарыс «Плыве з-пад Сьвятое Гары Нёман», два ўрыўкі з якога друкуюцца ў гэтым нумары «Божым Шляхам», прысьвечаны паходжаньню і лёсу геаграфічных назоваў на Беларусі, паводля навуковых дадзеных і народных паданьняў. У нарысе прыгадваецца больш за 500 нашых назоваў: гарады, мястэчкі, паасобныя гістарычныя вёскі, гарадзішчы, крушні замкаў, узвышшы, вазёры, рэкі, рэчкі, балоты, пушчы і г. д. У сувязі з колкасьцю назоваў сталася патрэбнай іх клясыфікацыя, як напрыклад-назовы гістарычнага паходжаньня (Тураў, Заслаўе, Барысаў, Вітаўка і г. д.), ад рэкаў і вазёраў (Полацак, Віцебск, Пінск, Беласток і г. д.), рэлігійнага паходжаньня (Пяруноў, Мост, Ігумен, Духаўшчына, Мар'іна Горка і г. д.), ад людзкіх прозьвішчаў (Азарычы, Баранавічы, Сьвір і г. д.), ад флёры і фауны (Берасьце, Ельня, Бабруйск і г. д. ), тапаграфічныя (Гомель, Рагачоў, Масты і г. д. ), ад выкапняў і заняткаў насельніцтва (Ляды, Буды, Менск і г. д.), featureрознага паходжаньня (Нясьвіж, Чавусы, Слонім і г. д.). Адначасна з тым ці іншым назовам прыгадваю гістарычныя і літаратурныя помнікі, што маюць да яго дачыненьне (Пачатны Летапіс, Баркулабаўская Кроніка, «Слова аб палку Ігаравым» і інш.), фальклёр (гістарычныя песьні, прыказкі і інш.), карыстаюся літаратурнымі рэмінісцэнцыямі (Купала-Магілёў, Багдановіч-Ваўкавыск, Жылка-Вільня, Дубоўка-Брагін і інш.), прыгадваю выдатных беларусаў (Леў Сапега-Астроўна, Кастусь Каліноўскі-Мастаўляны, Ігнат Грынявіцкі-Грынявічы, Цётка-Новая Вялейка і інш.). І калі глыбокапаважаны чытач яшчэ раз пераканаецца ў прыгажосьці і непаўторнасьці нашае Бацькаўшчыны, дык значыцца аўтар дасягнуў тае мэты, да якое імкнецца ў сваёй працы.

нязграбны барабан прыціснуў яе да зямлі. З нявыказаным пачуцьцём на сэрцы, я неўзаметку спакінуў сяброў навуковае экспэдыцыі і прысеў на беразе насупраць высьпы з крушнямі былога праваслаўнага, а потым базыльянскага манастыра. Можа я й ня бачыў тады гэтыя крушні, бо прыгадаўся мне вялікі дзяржаўны муж Леў Сапега, што, стаўшыся сам каталіком, будаваў для сваіх суродзічаў і праваслаўных і вуніятаў цэрквы. Таму я нават не заўважыў ,як побач прысеў сівы дзед і, азірнуўшыся вакол, распачаў гутарку:

— Ты, таварыш, калі ўвайшоў у царкву, хай сабе і паруганую, дык шапку скінуў. Дый ў гэны алешнік зашыўся не дарма. А мяне не палохайся. Хаця я чалавек урадавы, але ня шпіён. Прышлі гэна тады да мяне дый кажуць: «Пільнуй, дзед Піліп, калгаснае збожжа, бо ты ў Бога веруеш і красьці ня станеш, як тыя раённыя пацукі». Аднак алешнік ад іх не абароніць. Усё перавялі, усё нішчуць. Сапраўды — Вароўскія. Вось гэныя крушні на аблоку праз месяц пачнуць раскопваць, ды з гэнае цэглы ў мястэчку лазню будаваць, а ня хопіць цэглы, дык і Белую Царкву раскапаюць. З сваіх рук бруд змываюць, а затое душы іхнія каростай парасьлі. Я часам прыду ў царкву, зачынюся з сярэдзіны, ды ўкленчыўшы перад гакам, на якім вісеў цудатворны абраз, малюся:

— Зьлітуйся, Прасьвятая Божая Маці нашая Белацаркоўская, пазбаў сваіх мужыкоў-хрысціянаў ад гэнае горшае за татараў напасьці.

### II.
### Пахвала, Віцьба, Ёзафатаў камень

У Віцебску, спакідаючы з гулам Езуіцкі мост, і прарваўшыся паміж Альгардавай і Вусьпенскай гарамі, выбягае ўся запененая Віцьба на прастору, каб нарэшце далучыцца да хуткае Дзьвіны. За тысячагодзьдзі яна нацягнула сюды гэтулькі пяску, жвіру ды каменьня, што нават Дзьвіна ня здолела, падхапіўшы іх з сабою, пацягнуць далей і сама пут на палову звужэла. У 1865 г. і Віцебшчыну і Вокаўскі Лес наведаў сухмень, а таму абмялела Дзьвіна, што прымусіла Віцьбу капаць сабе ў сваіх наносах глыбейшае, чым заўсёды рэчышча. І нечакана ўвесь вялікі горад ад Пескавацiку да Лукішкаў, ад Юр'евае Горкі да Гутараўшчыны ўскаланула чутка — Віцьба адкапала ёю-ж калісьці пахаваны вялізарны камень, на якім меўся гэткі-ж вялізны высячаны крыж, адшураваны пяском ды абмыты вадой.

Паводля прыпушчэньня некаторых навукоўцаў, магчыма менавіта на гэтым камяні ў 1435 г. князь Сьвідрыгайла спаліў Смаленскага Мітрапаліта Гарасіма, ў адзнаку чаго пазьней на ім высяклі крыж. Пераважная бальшыня навукоўцаў даводзіла, што гэта адзін з шматлікіх бязыменных Барысавых камянёў — з крыжам, але бяз літараў, з якіх бліжэйшы ляжаў адсюль усяго толькі ў пяці вярстах паблізу Маркаўшчыны. Аднак народ надаў выкапанаму Віцьбай камяню назоў Ёзафатаў ад імя Полацкага Архіяпіскапа Ёзафата, забітага ў 1623 г. на Вусьпенскай гары. Пад гэтым назовам камень і вядомы цяпер паміж навукоўцаў.

Да самае асеньняе паводкі Дзьвіны, што пакрыла вадой наносы Віцьбы, хадзілі віцебляне дзівіцца на валун з крыжам. Яны спадзяваліся адведаць яго і ў наступны год, але дарма. Калі сплыла ўніз вясеньняя паводка, дык яны пабачылі, што Віцьба закапаўшы сваё леташняе рэчышча, пракапала сабе ў сваіх наносах новае. З таго часу прайшло бяз малага сто год, павымiралі і тыя, хто бачылі Ёзафатаў камень і дзеці іхнія, але рэчка што-вясну, зьмяняючы рэчышча, тым ня менш ніколі не адкапала зноў той самы камень. Нават пазьней архэалёгі, пракапаўшы свае глыбокія траншэі да яго не дасталіся.

Шмат чаго бачыла рэчка Віцьба з таго часу, як нарадзілася з чыстых лясных крыніцаў, шмат народных крыві, сьлёзаў і поту па ёй сплыло і пэўне знарок, каб перахаваць Ёзафатаў камень ад царскага і бальшавіцкага дынаміту, яна глыбока яго пад сабой тымчасова пахалава.

10. X. 1954 р., ЗША.

**Юрка Віцьбіч**

# Неспадзеваная сустрэча

(Працяг 5-ты да апавяданьня **«Няведамыя шляхі»**)

Кожны закончаны школьны год прыносіў Андрэю Протасу радасьці, але затое кожны пачатак наступнага году нёс яшчэ большыя цяжкасьці. Калі распачынаў перадапошнюю клясу, дык думаў з трывогаю, ці ўдасца яе скончыць? Маці і дзядзька не маглі яму памагаць больш як раней, але вымогі значна збольшыліся.

Аднойчы ўканцы верасьня ён паволі йшоў у бурсу, з сумам гледзячы на сваю вынашаную блузку. Раптам на розе вуліцы яго пераняў калішні старэйшы сябра Барыс Скок, які год таму скончыў гімназію і студыяваў у Віленскім Унівэрсытэце. Якраз цяпер ён ехаў у Вільню і падарозе зайшоў адведаць сваіх сяброў. Прывітаўшыся з Андрэем, Барыс глядзеў на маркотнае аблічча свайго субяседніка і пробаваў жартаваць:

— Ты чаго так нос на квінту спусьціў?

— Цяжкі зрабіўся, дык і спусьціў. — Адказаў неахвотна Андрэй.

— Які там цяжкі, калі шчокі пацягло аж у рот.

— Вось таму і цяжка.

— А ведаеш, добра што мы спатkаліся, ёсьць магчымасьць узваліць табе дьве лекцыі на галаву, дык магчыма нос крыху падымецца.

— Праўда?! Гэта было-б выдатна. — Павесялеў Андрэй.

— Гэтая выдатнасьць будзе шмат залежаць ад цябе.

— Як гэтак, дык не бяда.

— Ну, не кажы гоп, пакуль не пераскочыў, — ківаючы галавою гаварыў Барыс. — Справа вось у чым: Тут жыве адна мая калежанка з унівэрсытэту, а яе малодшая сястра вучыцца тут у польскай гімназіі і страшэнна адстае з альгэбры і фізыкі. Бацькі іх багатыя, маюць недалёка маёнтак і тут маюць свой дом, маюць сваё аўта, але маюць так-жа клопат з дзецьмі. Толькі старэйшая дачка вучыцца добра, а малодшая дубальтуе кожную клясу, і лекцыі нічога не памагаюць; а сынок, дык зусім ня хоча думаць аб навуцы. Вось тая старэйшая дачка і прасіла мяне знайсьці ім добрага рэпэтытара.

— Ну што-ж папробую.

— Зразумела, што ты нічога на гэтым ня страціш, а можаш толькі скарыстаць. Плаціць яны будуць ад гадзіны. Сёньня вечарам пойдзем да іх разам.

— Добра.

— А вось другую лекцыю дык магу табе ўсватаць куды лепшую. Гэта дзьве сяброўкі жыдовачкі з польскае гімназіі і абавязкова абедзьве хочуць быць першымі ў клясе, але да гэтага пяршынства ім стаіць крыху на перашкодзе альгэбра. Калісь я даваў лекцыі адной з іх старэйшых сёстраў і так-жа толькі каб падагнаць да пяршынства.

— О, гэта дык з ахвотаю буду ганяць!

— Толькі сам за імі не ганяйся.

— Чаму, яны такія небясьпечныя? — сьмяючыся пытаў Андрэй.

— А вось пабачыш.

— Калі?

— Я ім сёньня вечарам скажу, дык заўтра яны самі да цябе прыйдуць, тады і пабачыш.

На наступны дзень Андрэй ішоў даваць першую лекцыю малодшай дачцы пана Яся Прыбыткоўскага. Відаць, што новага рэпэтытара ў хаце чакалі ўсе з нейкаю дзіўнаю цікавасьцю. Самая вучаніца Данута Прыбыткоўская мела на сабе новенькую сукенку. Калі маці і бацька гаварылі аб навуцы, дык сінія вочы Дануты глядзелі кудысьці ў неазначаную даль, відаць, што іх уласьніца з ахвотаю ўцякла-б за тры-дзевяць палёў ад ненавіснае альгэбры.

Прывітальныя фармальнасьці былі кароткія і Андрэй узяўся за тлумачэньне розных ікс-квадратаў.

— Ці вам ясна? — пытаўся ён у Дануты.

— Так. — казала яна нібы не сваім голасам.

— Дык паўтарэце.

— ?

І Андрэй зноў пачаў тлумачыць тое самае, налягаючы на цяжэйшыя мамэнты.

— А цяпер ясна?

— Так.

— Дык паўтарэце.

Цэдзячы слова-па-слову, Данута паўтарала, а Андрэй з нецярпеньнем падказваў ёй, калі заціналася. З заданьнямі была яшчэ горшая марока. Андрэй заставіў Дануту самой пробаваць разьвязаць задачу і пры гэтым мусіў раз-у-раз паказваць на памылкі і папраўляць іх. Тады ягоная худая рука далёка высоўвалася з кароткага рукава кашулі і выдавалася худзейшаю, як была ў сапраўднасьці.

А за прычыненымі дзявярыма ў суседнім пакою дзьве пары зыркіх вачэй бацькоў Дануты ўважна сачылі за кожным словам і рухам Андрэя.

— Ясю, ты помніш, як мы толькішто купіўшы аўта ехалі з Замкавішчаў і былі ўгразьлі на гасьцінцы, дык у гурце пастушкоў, што абступілі аўта, быў адзін мізэрны але цікавы малыш, які вельмі нагадвае нашага новага рэпэтытара?

— Казя, гэта табе так здаецца. Ды як можна памятаць нейкага малыша, якога чалавек бачыў раз у жыцьці няма ведама калі і да таго зусім прыпадкам, ня зьвяртаючы на яго ўвагі?!

— А я тады зьвярнула ўвагу і табе кажу, што гэта той! — шаптала з пераконаньнем Казімера.

— Але-ж з тае глушы яшчэ агулам ніхто ў сьвет і ня думае рухацца!

— А вось-жа пан Барыс, што яго рэкамэндаваў, здаецца з тае ваколіцы паходзіць.

— Ну ваколіца, гэта паняцьце даволі шырокае, мы так-жа нібы ў гэтай-жа, як ты кажаш, ваколіцы...

Тымчасам закончыўшы лекцыю, Андрэй зьбіраўся выходзіць. Ля дзьвярэй яго пераняла пані Казімера:

— Пане Протас, якое вашае ўражэньне? Ці Данута хутка зможа дагнаць сваіх клясных сяброўак?

— Калі будзе пільна працаваць, дык чаму-ж не?!

Усе ўсьміхнуліся, а пані Казімера скарыстала з гэтага, каб зьмяніць тэму гутаркі:

— Ці можна ведаць адкуль вы родам?

— З вёскі Стараброды, недалёка ад мястэчка Замчышча.

— А, дык мы ведаем вашую вёску, мы некалькі разоў праяжджалі гасьцінцам каля яе і адзін раз там чуць не загразьлі.

— Калі гэта магло быць? — пацікавіўся Андрэй.

— О, гэта даволі даўно, мусіць гадоў шэсьць таму, калі ня больш.

— Дык мусіць я вас тады бачыў, бо мы аднойчы, насілі хлуд, каб дапамагчы шофэру вывезьці з гразі аўта.

— Значыцца мы старыя знаёмыя, — казаў спакойна Ясь, ня гледзячы на нікога.

Як толькі Андрэй выйшаў за дзьверы, Казімера загаварыла:

— Ашто, я табе казала, што гэта той самы, бачыш, а ты ня верыў!

— Гм, ня верыў. — Ясь пацягнуў некалькі раз цыгарку, пусьціў клубы дыму і прадаўжаў — бо і ня лёгка паверыць, каб той, што меў аставацца ў цемры, раптам выскачыў так, што прыйшоў вучыць наша дзіця...

— Відаць такая Божая воля — адказала ціха Казімера і раптам дадала — але можа мы будзем вячэраць?

Іхнюю гутарку перабіў бразкат талерак, лыжак і відэльцаў, а тымчасам Андрэй ішоў на другую лекцыю, каб здабыць сабе пару грошаў. Уканцы тыдня ён атрымаў свае першыя, цяжка запрацаваныя грошы. Хлеб і селядзец, што іх купіў у першай краме смакавалі надзвычайна.

**А. Жменя**

# НА РЭЛІГІЙНАЙ НІВЕ

## АРДЫНАРЫЙ ДЛЯ ВЕРНІКАЎ УСХ. АБРАДУ Ў ФРАНЦЫІ

Сьвяцейшы Айцец Пій XII праз Кангрэгацыю для Ўсходняе Царквы з дня 27 ліпеня г. г. назначыў Парыскага Кардынала Я. Эм. Мўрыса Фэльтэна ардынарыям для ўсіх вернікаў ўсходняга абраду ў Францыі. Да гэтага часу ў Францыі ёсьць ажно 10 групаў вернікаў усх. абраду: армяне, беларусы, грэкі, мароніты, мэльхіты, расейцы, румыны, сірыйцы, украінцы і хальдэі. У стадыі арганізацыі знайходзяцца грузіны. Новы ардынарый выконвае сваю ўладу над усходнікамі ў паразуменьмі з мяйсцовымі ардынарыямі ў Францыі і духоўнымі ўладамі ўсходняга абраду кожнае групы вернікаў паасобку.

## УРАЧЫСТАЕ ПАСЬВЯЧЭНЬНЕ БАЗЫЛІКІ СЬВЯТОЕ ТЭРЭСЫ АД ДЗІЦЯТКА ІСУС У ЛІСЬЕ

Сьв. Тэрэса ад Дзіцятка Ісус, кананізаваная ў 1927 г., сёньня так шырока ведамая ў сьвеце, як рэдка каторы сьвяты. Дык ня дзіва, што пасьвячэньне базылікі ў Лісье, пабудаванае на яе чэсьць, якое адбылося 11 ліпеня мела нязвычайна ўрачысты характар і сьцягнула больш 100 000 вернікаў. На гэтую ўрачыстасьць Сьвяцейшы Айцец дэлегаваў свайго прадстаўніка ў асобе Парыскага Кардынала Я. Эм. Фэльтэна і сам прамаўляў праз радыё да сабраных. Між сабранымі былі прадстаўнікі розных народаў і абрадаў. Побач уласьцівага абраду пасьвячаньня адбываліся так-жа іншыя прынагадныя цэрэмоніі дастасаваныя да культу сьвятое. Напрыклад падчас працэсіі ад гробу сьвятое, які знайходзіцца ў мяйсцовым манастыры кармэлітанак, да базылікі, голасна чыталася праз радыё малітва «Ойча наш» у розных мовах, між імі так-жа пабеларуску.

## МІЖНАРОДНЫ КАНГРЭС ХРЫСЦІЯНСКІХ АРХЭАЛЁГАЎ

Хрысціянская архэалёгія за апошняе паўстагодзьдзе зрабіла вельмі паважны поступ і прынесла неімаверна багаты матэрыял на доказ праўдзівасьці Сьвятога Пісаньня. Агульныя падсумаваньні працы на полі рэлігійнае архэалёгіі былі зроблены сёлета на 5-ым міжнародным Кангрэсе ў Эз-ан-Провэнс (Францыя) 13 верасьня, дзе ўдзельнічалі вучоныя архэалёгі з Францыі, Грэцыі, Італіі і Швэцыі.

## САЦЫЯЛЬНЫ ТЫДЗЕНЬ

Сацыяльнае пытаньне, якое ад даўжэйшага часу выклікае нязьлічаныя закалоты на ўсім сьвеце, прыцягвае да сябе штораз жывейшае зацікаўленьне каталіцкіх вучоных, дзеля гэтага ўсьцяж актывізуюцца іхныя студыі над разьвязкаю сацыяльных пытаньняў. У Францыі сёлета між 20-27 ліпеня адбыўся ў Рэнн 41-ы з чаргі Францускі Сацыяльны Тыдзень на праводную тэму «Крызыс улады і крызыс грамадзкае цноты». Характэрна, што францускачя прэса выказвае штораз большае зацікаўленьне да гэтых Тыдняў.

## СЭМІНАРЫЯ ФРАНЦУСКАЕ МІСІІ

Свайго часу шмат пісалася ў газэтах і часапісах аб разьвязаньні францускае ўстановы сьвятароў-работнікаў і аб плянах рэарганізацыі гэтае ўстановы. Нядаўна Апостальскі Пасад дэкрэтам з дня 15 кастрычніка зацьвердзіў новы статут, якім устанаўляецца «Місія для Францыі» і ў абацтве Понтіні дэпарт. Йонн адчынена ўжо сэмінарыя для падрыхтоўкі новых кадраў для Місіі. Сёлета лік мейсцаў для кандыдатаў на сьвятароў для Місіі абмежаваны да 280, але на будучы год прадбачыцца значнае пашырэньне Сэмінарыі.

## МІЛЬЁНЫ УДЗЕЛЬНІКАЎ НА КАНГРЭСЕ

Канадыйскі Марыйскі Кангрэс у Труа-Рів'ер азначаўся сваею асабліваю велічнасьцю і шматлюднасьцю. На ім удзельнічала больш мільёна вернікаў з усяе Канады. Падчас дзесяцідзённага трываньня Кангрэсу бязупынна адпраўляліся Службы Божыя на 50 аўтарох у 175 спавядальніцах была заўсёдная нагода да споведзі. Уканцы адбылася велічная працэсія з Эўхарыстычным Хрыстом.

### 76-Ы КАТАЛІЦКІ ДЗЕНЬ У ФУЛЬДЗЕ

Нямецкія Каталіцкія Дні маюць ужо не абы якую традыцыю. Сёлетні 76-ы з чаргі Каталіцкі дзень, які адбыўся ўканцы жніўня ў Фульдзе пад агульным клічам: «Вы павінны быць Мне сьведкамі» прыцягнуў на сябе большую ўвагу як калі. На Кангрэсе ўдзельнічала больш 300 000 вернікаў з Зах. і Усх. Нямеччыны і ўканцы Кангрэсу 30 жніўня адбылося пасьвячэньня каталіцкае Нямеччыны Божай Маці. Акт пасьвячаньня прачытаў Кэльнскі Кардынал Я. Эм. Фрынгс.

### САЛЯНАЯ СЬВЯТЫНЯ

У прысутнасьці прадстаўнікоў калюмбійскага ўраду, дыплёмакычных прадстаўнікоў Аргэнтыны, Балівіі, Кубы, Нямеччыны і Парагваю пасьвяціў Я. Эм. Тулiё Ботэрю Салязар у Цікакіра 50 км. ад Боготы ў саляных капальнях 100 м. пад зямлею аграмадную царкву, якая можа ўмясьціць каля 10 000 людзей. У гэтай новапасьвячанай саляной царкве біскуп адправіў першую Службу Божую.

### МЭМУАР У СПРАВЕ ПРАСЬЛЕДАВАНЬНЯ

Толькі нядаўна 10 верасьня швайцарская агэнцыя КІПА апублікавала тэкст югаслаўскіх каталіцкіх біскупаў да ўраду ў справе прасьледаваньня Каталіцкае Царквы ў Югаславіі. У мэмуары пералічваюцца шматлікія факты перадусім з 1953 г., калі каталіцкія біскупы і сьвятары былі ахвярамі розных нападаў, зарганізаваных камуністычнымі групамі. Найбольш востры наступ вядзецца на каталіцкае духавенства ў Харвацыі.

# БЕЛАРУСКАЯ ХРОНІКА



**Жыравічы. Агульны від у 1938 г.**

### БАЦЬКАЎШЧЫНА

#### Бязбожная прапаганда на унівэрсытэце

Хваля бязбожнага руху, якая сёлета па загаду з Масквы з новаю сілаю вядзецца на ўсіх адрэзках грамадзкага жыцьця на Беларусі, ня мінула і Менскага унівэрсытэту. Там 19 кастрычніка Я. Н. Мараш абараняў дысэртацыю на атрыманьне вучонае ступені кандыдата гістарычных навук такую тэму: «Агрэсія каталіцызма і Ватыкана ў Літве і Беларусі ў другой палавіне XVI і пачатку XVII стагодзьдзяў». Агулам усюды зьвяртае на сябе ўвагу асабліва востры супрацькаталіцкі характар антырылігійнае бальшавіцкае прапаганды.

### АНГЛІЯ

#### Агульны Зьезд ЗБК у Бірмангаме

Акруговая дружына Згуртаваньня Беларускіх Камбатантаў у Бірмінгаме адбыло 26 верасьня свой гадавы зьезд, на якім пасьля справаздачы ўступаючае ўправы і дыскусіяў старшыня галоўнае ўправы ЗБК Ул. Курыла прачытаў зьместоўны рэфэрат аб цяжкасьцях на шляху вызвольных змаганьняў з боку суседзяў Беларусі. У новую акруговую ўправу ЗБК выбрана: старшыня — Ул. Карніловіч, сакратар — М. Ёўлеў, скарбнік — Ст. Гатоўка.

### БЭЛЬГІЯ

#### З жыцьця студэнтаў

За мінулы акадэмічны год шэсьць беларускіх студэнтаў у Лювэне закончылі свае студыі: Віньніцкі Леанід — сацыяльныя і палітычныя навукі з тытулам магістра, Занковіч Анатоль — мэдыцыну з тытулам доктора, Запруднік Янка — гісторыю з тытулам магістра, Марговіч Аляксан-

дар — сацыялягічныя і паліт. навукі з тытулам магістра, Урбан Паўло — гісторыю з тытулам магістра, Цьвірка Уладзімер — сацыялёгічныя і паліт. навукі з тытулам магістра, прытым чатырох апошніх сваімі выдатнымі магістэрскімі працамі, зьвярнулі ўвагу прафэсароў на мала ведамыя пытаньні з беларускае гісторыі і атрымалі дакторскія стыпэндыі на прадаўжэньне сваіх студыяў.

Новых беларускіх студэнтаў у Лювэн сёлета прыбыло толькі двох.

## ГІШПАНІЯ

### У госьцях у гішпанскае моладзі

На заканчэньне Марыйскага Году ў Гішпаніі адбыўся ў Сарагосе між 3-13 кастрычніка Гішпанскі Марыйскі Кагрэс, на якім побач з шматтысячнымі прадстаўнікамі ад усіх пластоў гішпанскага грамадзтва, удзельнічалі як ганаровыя госьці прадстаўнікі ад паняволеных бальшавікамі народаў, у тым ліку і беларусы.

Кожны дзень Кангрэсу меў прыгожыя ўрачыстасьці, але для паняволеных народаў на асаблівую ўвагу заслугоўвае нядзеля 10 кастрычніка. Гэтага дня а 9 гадз. на катэдральным пляцы была адпраўлена ўрачыстая Служба Божая. Абапал аўтара былі ўстаўленыя сьцягі розных гішпанскіх арганізацыяў моладзі, а перад аўтаром студэнты з-за зялезнае заслоны трымалі свае нацыянальныя сьцягі і панкарты з назовамі своіх краінаў. Будынкі навокал пляцу былі сьвяточна ўпрыгожаны і на відных мейсцах пазавешвана абразы Багародзіцы, якія найбольш у пашане ў паасобных паняволеных краінах — між імі і Нябесная Валадарка Беларускага народу з напісам «Жыровіцкая Божая Маці, Патронка Беларусі».

Пасьля Службы Божае а. Сантос Бэгірыстайн распачаў вельмі ўрачысты і ўзрушаючы акт «Гішпанская моладзь перад Царквой маўчаньня», паясьняючы коратка сучасны рэлігійны стан дзесяці народаў з-за зялезнае заслоны, прадстаўнікі якіх знаходзіліся на Кангрэсе і кожнае тых краінаў паасобку. Наступна пад гукі нацыянальнага гымну высока ўздымаўся сьцяг данага народу і чыталася малітва да Багародзіцы ў мове таго народу, яе пераклад у гішпанскай мове і супольная малітва ўсіх прысутных за даны народ.

Першым у альфабэтычным парадку быў беларускі народ. Высока ўзьвіўся бел-чырвона-белы сьцяг, залунала парывістая мэлёдыя нацыянальнага гымну і пачуліся словы малітвы: «О Найсьвяцейшая Дзева Марыя, Маці Божая і нашая Маці!... у гэтым Сьвятым Годзе, прысьвечаным Табе, прадстаўляем Табе глыбокі боль усяго беларускага народу... здабудзь нам ласку пабожна і годна перанесьці той жыцьцёвы крыж, на які мы сабе заслужылі і дай нам шчасьце аглядаць сваімі вачыма нашую вольную бацькаўшчыну Беларусь і працаваць у ёй Богу на славу і сваім братом на карысьць, а ў вечным жыцьці стаць праваруч Твайго Сына...»

Па сканчэньні гэтага акту, студэнцкая моладзь з паняволеных краінаў накіравалася са сваімі сьцягамі ў катэдру — іх суправаджала сапраўдная бура воплескаў і авацыяў. Відаць было, што напісы на траспарэнтах гішпанскае моладзі: «Нашы прасьледаваныя браты ёсьць ганаровымі кангрэсістамі», «Ваш боль крывавіць нашы сэрцы» і пад., былі выпісаны так-жа і ў сэрцы моладзі і ўсяго грамадзтва.

✝

У часе цяжкое апэрацыі дня 14 кастрычніка г. г. памёр у Ліёне

**ЗАХАРЭВІЧ РЫГОР**

народжаны 11 лістапада 1905 г. у вёсцы Карэліна Бягомльскага раёну. Пахаваны на магільніку сьв. Карла ў Ля Крэзо. Шчыра любіў ён сваю бацькаўшчыну і належаў да непахісных змагароў за яе вызваленьне. Аб сьмерці свайго сябры з глыбокім сумам паведамляюць яго прыяцялі і мяйсцовая Філія Аб'еднаньня Беларускіх Работнікаў у Францыі.

Хай будзе яму лёгкай чужая зямелька!

## З.Ш.А.

### З арганізацыйнага жыцьця

● **Беларускае Студэнцкае Таварыства ў ЗША** адбыло ў Нью Брунсьвіку дня 4 верасьня свой гадавы Зьезд, на якім былі абгавораны актуальныя справы ў зьвязку з новым акадэмічным годам.

● Згуртаваньне Беларускае Моладзі ў Амэрыцы ўзялося за **выданьне «Беларускага песеннага зборніка»** Міколы Куліковіча. Сьпеўнік будзе выходзіць ў 8-і выпусках. Першы выпуск з Калядными, Веснавымі і Купальскімі песьнямі ўжо набіваецца на матрыцы і мае выйсці каля Каляд.

● **Спартовая дружына «Пагоня»** Згуртаваньня Беларускае моладзі ў Кліўляндзе здабыла добрыя вынікі ў футбальнай гульні і на прапанову гарадзкіх уладаў гор. Кліўлянду выслала пару сваіх лепшых ігракоў у рэпрэзэнтацыю штату на міжнародныя футбольныя спаборніцтвы ў Аўстралію.

● Сёлета 3-га кастрычніка адбыўся другі з чаргі **агульны Сход Нью Ёрскага Адзьдзелу БАЗА.** На ім ясна адлюстраваліся ўсе цяжкасьці арганізацыйнага жыцьця ў ЗША — малы лік прысутных сяброў і адмовы ад актыўнага ўдзелу ў працы. У склад новае ўправы ўвайшлі: старшыня — К. Мерляк, заст. старшыні — А. Адамовіч, 1-ы сакратар — Н. Арсеньнева, 2-і сакратар — М. Цэлеш, скарбнік — П. Бунчук.

Impr. de Navarre, 11, rue des Cordelières, Paris.

Directeur : Abbé L. Horosco.

# Абразкі з жыцьця

## ШТО ДА ЛЮДЗЕЙ БОЛЬШ ПРАМАЎЛЯЕ?

Турпіні ў сваэй Гісторыі аб францускім каралі Карле Вялікім (742-814) апавядае, як аднойчы да Карла прыходзіў сарацынскі кароль Айголянт, каб прыняць хрысціянства. Увайшоў ён у палац Карла якраз падчас абеду. За сытна застаўленымі сталамі ў таварыстве Карла, сядзела шмат духоўных, ваенных і прыдворных людзей у багатых вопратках. На запытаньне Айголянта, што гэта за людзі, Карло дакладна расказаў аб сваіх субяседніках, зьвяртаючы найбольш увагі на духоўных, на іх ерархічныя становішчы і іхныя царкоўныя функцыі. У той-жа салі каля дзьвярэй сядзела на падлозе 12 бедакоў у рызманох і мелі яны перад сабою вельмі мала ежы і тая ляжала проста на падлозе. На пытаньне Айголянта, хто гэтыя людзі, Карло адказаў: «Гэта Божыя людзі, вястуны Господа нашага Ісуса Хрыста, мы іх кормім штодзенна ў імя 12 апосталаў». На гэта Айголянт сказаў: «Тыя, што сядзяць каля цябе, гэта твае людзі і яны шчасьлівыя, маюць сытную ежу, смачнае пітво, багата апранены, а гэтыя, што ты кажаш, Божыя людзі, чаму-ж яны тут у цябе церпяць бядоту, ядуць у паўголад, апранены ў лахмоцьце,сядзяць далёка ад цябе і з імі так брыдка абыходзяцца? Дрэнна ты служыш свайму Госпаду, калі так пагана прыймаеш Ягоных вястуноў. Дрэнная твая рэлігія, калі так у цябе дзеяцца, хоць ты яе і хваліш». Пры гэтых словах Айголянт пакінуў палац, адмовіўся прыняць хрышчэньне, а наступнага дня пайшоў вайною супраць Карла.

## ЯКІМ АРУЖЖАМ ВАЮЕШ, АД ТАКОГА І ЗГІНЕШ

Добра і згодна жылі сужонкі Кустарэвічы ў мястэчку Г. на Палесьсі, але зьявілася там акушэрка Алёна Р. і прыглянуўшыся да Кустарэвіча, узялася хадзіць каля яго. Праз пару месяцаў ад сям'і Кустарэвічаў асталіся толькі руіны. Кустарэвічыха плакала штодня горкімі сьлязамі, аж пакуль сухоты не завялі яе ў магілу, а дзеці разыйшліся хто куды. Але нядоўга цешылася Алёна Ш. сваім жыцьцём «на веру» з чужым чалавекам. Як толькі зьявіліся ў яе першыя азнакі старэньня, Кустарэвіч кінуў яе ў цяжкім матэрыяльным палажэньні, бо знайшлася іншая спрытнейшая за яе. Ганьба, прыкрасьці і няшчасьці бязупынна чаргаваліся навокал Кустарэвіча, а яшчэ больш каля Алёны Ш. да апошніх няслаўных дзён яе жыцьця.

## АДЗІН З ТЫХ, ШТО «НЕ ПАТРАБУЮЦЬ БОГА»

Адзін заможны нямецкі селянін, які акрамя гаспадаркі яшчэ добра зарабляў гандлем, у меру ўзбагачэньня ставаўся штораз больш абыякавым да рэлігійных практыкаў, а ўканцы і зусім адрокся веры. У 1903 г. летам ён сядзеў у піўнушцы з адным кумпаньёнам і, апаражніўшы сваю чарку, казаў: «Цяпер мае справы йдуць так, што я больш Бога не патрабую!» Таго-ж дня ў мястэчку здарыўся вялікі пажар каля дому недаверка і ягоная хата як бачыш была ў агні. Недаверак кінуўся ратаваць маемасьць, але мур ад падаючага суседняга дому яго моцна пакалечыў, а полымя асмаліла аблічча і рукі так, што ён страціў прытомнасьць. Няшчаснага занесьлі ў бальніцу і як толькі ён там ачуняў, атрымаў тэлеграму, што ягоная 23-гадовая сястра памерла ад тыфусу. Гордасьць і заразумеласьць дзесь зьніклі бясьсьледна; цяпер калішні багач гаварыў зусім іначай. Сваё цярпеньне, ён успрыняў як пакуту за зьнявагу Бога. Пасьля васьмі дзён страшэнных мукаў, ён памёр шчыра пакаяўшыся і прыняўшы сьвятыя Тайны.

## ПРЫГОЖАЕ ПРЫЗНАНЬНЕ

Нямецкі гэнэральны дырэктар поштаў фон Стэфан, заснавальнік сусьветнае арганізацыі паштароў, аднойчы ў адказ на пахвалу аб сваёй дзейнасьці сказаў: «Калі мне ўдалося стварыць штосьці трывалае для шырокіх кругоў грамадзтва ў сьвеце, дык у першую чаргу я за гэта дзякую Богу за тое, што Ягоная моц яшчэ раз праявілася праз маю слабасьць».

## ГРОШЫ НАД УСЁ

Апошнім часам цэлы рад выдатных прафэсароў і лекарскіх таварыстваў у ЗША сьцьвердзілі, што курэньне тутуну мае паважны ўплыў на разьвіцьцё рака. Дакладнейшыя дасьледы гэтае асьведчаньне яшчэ ўзмоцнілі.

Калі гэтая вестка пашырылася ў прэсе, дык агульна заўважана, што продаж папяросаў зьменшылася прыблізна на 10%. І характэрна, як зарэагавалі на такую вестку тутуновыя кампаніі. Яны анічуць не затрывожыліся, што прычыняюцца да пабольшаньня сьмяротнасьці, але ліхаманкава пачалі шукаць вучоных, якія-б асьведчылі, што курэньне нашкоднае. На шчасьце такіх вучоных экспэртаў не знайшлося, дык тутуновыя кампаніі, каб заспакоіць курцоў, абвесьцілі ,што пачануць паляпшаць фільтр пры фабрыкацыі папяросаў і ўжо рыхтуюць шырокую рэкляму ў тэлевізіі, каб адурманьваць курцоў.

## «АЛЕ БОГ ЁСЬЦЬ ТАКІ ЗАЎСЁДЫ»

У мястэчку Рэндорф, мясцы жыхарства нямецкага канцлера Конрада Адэнаўэра, шмат хто прыходзіць на Службу Божую ў мяйсцовую парахвіяльную царкву толькі дзеля таго, каб там пабачыць канцлера і дзеля гэтага часта напярод зьвяртаюцца праз тэлефон да мяйсцовага параха з запытаньнямі, ці на Службу Божую прыйдзе канцлер? Аднаго дня, калі больш як заўсёды дакучалі параху гэткія запытаньне, ён адной высокапастаўленай асобе адказаў: «Канцлера ня будзе на Службе Божай, але Бог ёсьць такі заўсёды!»

# ЗЬМЕСТ